УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-44
К 32

**Кавяткоўскі**, С.

К32 Падарунак для Адэлі : проза / Севярын Квяткоўскі. - Менск : Логвінаў, 2012. - 96 с.

ISBN 978-985-562-010-6.

“Падарунак для Адэлі” – суплёт містычных, часам іранічных, крыху жудкаватых, але часьцей забаўных гісторый з жыцьця людзей, якія атачалі аўтара ці мроіліся яму на мяжы другога і трэцяга тысячагодзьдзяў. Большасьць апавяданьняў друкавалася ў газэце “Наша Ніва”, частка – на розных пляцоўках інтэрнэту ў 1996-2006 гг.

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-44

ISBN 978-985-562-010-6

# Зьмест

# Падарунак для Адэлі

Я спазьняюся, я без машыны, я заблукаў. Што мне рабіць? Цяпер я практычна ня п'ю, але сёньня вырашыў адарвацца напоўніцу, як у найлепшыя гады. Вядома, за стырно магла б сесьці жонка, але менавіта сёньня я мушу застацца сам. Я сам-адзін сярод зарослага ядлоўцам бору. Вырашыў скараціць дарогу ад чыгункі і вось — углядаюся ў цемрадзь, што навалілася па-трапічнаму раптоўна. Цёпла, нават крыху задушна.

У мяне добрая візуальная памяць, ад якой будзе плён, калі ёсьць хоць якая візія. Я запаліў ды ўбачыў валун. Што ж, прысядзем ды вып'ем са срэбнай антыкварнай пляшкі, падоранай сябрамі на мой нядаўні юбілей.

У Адэлі сёньня таксама юбілей. У левай кішэні я трымаю срэбную пляшку, а ў правай – срэбны… Падарунак для Адэлі ляжыць у маёй правай кішэні.

Ці ж мог хто з нас падумаць, што Адэля перабярэцца са сталіцы ў лясную глушэчу?

Не, ня надта далёка ад гораду. Але ж Адэля ня водзіць аўто і ня любіць набіткаванага дачнікамі грамадзкага транспарту. Адэля любіць іграць на раялі, гуляць сярод дрэваў, гушкацца на арэлях з кніжкай, піць каву на тэрасе і глядзець на аблокі.

У думках я ўжо там — ля арэляў, тэрасы і раяля, аднак трэба шукаць дарогу. Мабільная сувязь тут, у лесе, чамусьці не працуе, а павінная. Што ж, каўтнем з пляшкі ды рушым сяк-так.

Да знаёмства з Адэляй я ня мог уявіць сабе, што палюблю рамансы. Зрэшты, я і цяпер іх прымаю адно ў Адэльчыным выкананьні. Пра маё захапленьне ёю яна ня ведае. Аднаго дня, у гасьцях, я выпадкова пачуў запіс і закахаўся ў голас. Ня ў тэмбр, а ў… Пачаў хадзіць на імпрэзы, каб хоць раз перахапіць ейны позірк, і аднойчы мне пашанцавала. Дзесьці недалёка ад мясьцін, дзе я цяпер працярэбліваюся празь ядловец, на беразе возера ладзілася Купальле. Я блукаў сярод людзей, нікому не вядомы і нікім не заўважаны. Пасьля выступу Адэлю атачаў натоўп, які насіў яе на руках, лашчыў, цалаваў ручкі… шыйку… губы…гр…

Плясь — партызанскія акопы! Я бразнуўся ў яміну, поўную плястыковак і ржавага жалезьзя. Са сьпіны грымнуў далёкі цягнік. Значыць, трэба ўзяць крыху пра-

вей. Дзіўна: ані сьцяжыны, ані супрацьпажарнай траншэі, якая дакладна прывядзе да людзей. Як сюды забраліся спадары турысты выходнага дня, што пакінулі сярод сьмецьця пустыя бляшанкі? Запальнічкай асьвятліў каленку — праз падраную нагавіцу праступіла кроў.

Тады, на пікніку ля возера, я таксама падрапаў нагу, аднак болю нават не заўважыў. «Мурр, а вы чаго сумуеце?» Я ня верыў свайму шчасьцю. Яна да мяне зьвярнулася! Зь якое прычыны зьвярнулася? Вы што, ня верыце ў цуды? Хаця б калядныя? А купальскія?

Мы разам купаліся, мы выпілі на брудэршафт і цэлую ноч…

Хрумсь. Ледзьве пасьпеў адскочыць! Яшчэ імгненьне, і старая высозная сасна ляснула б па маёй хрыбціне. Я скокнуў і разьдзёр шчаку аб сук.

Вып’ем…

…Пасьля той Купальскай ночы я прачнуўся самым шчасьлівым чалавекам у свеце. Ля вогнішча гатавалі каву, налівалі гарэлку, мазалі бутэрброды. Мне падавалася, што я стаў вышэйшы ростам і шырэйшы плячыма. Я імпэтна памахаў Адэлі рукой. Яна ледзьве прыкметна кіўнула і адвярнулася да нейкага ці то паэта, ці то бізнэсоўца… Не, да саліста сталічнай опэры.

Гэта цяпер паспаліты чалавек мо-

жа ўбачыць вяршкі грамадзтва адно праз тэлевізар. А тады… тады вяршкі толькі ўзьбіваліся. Саліст накінуў на Адэлю плед ды так і пакінуў руку на ейным плячы. Адэля гучна засьмяялася.

Як яна сьмяялася!.. Наступная наша сустрэча адбылася ўжо праз шмат гадоў — гадоў маіх частых узгадак і трызьненьняў пра Адэлю. На свой сёньняшні юбілей Адэля нікога не запрашала. Я ня ведаў, як быць, але зранку патэлефанаваў колішні саліст опэры: «Пойдзеш?»

І я вырашыў. І вырушыў. І вось я тут. А цяперака тут балота. Дзіўна, ніколі ня думаў, што ў гэтых ваколіцах ёсьць балоты… Стоп. А далей куды? Хмара на хвіліну адкрыла жарую поўню, і я ўбачыў, што стаю акурат пасярод багны. Я патрос пляшку — хопіць на паўгадзіны нясьпешнай гутаркі з самім сабою. Напрыклад, паўспамінаць пра наступную сустрэчу пасьля Купальля.

«А чаго вы не тэлефануеце?» — «Дык…» — «Які на вас сымпатычны касьцюмчык. Ну, хадземце, хадземце, раскажаце». Вялікая кватэра з краявідам на стары горад, камін, пляшка каньяку і кветкі на стале. «Гэты раманс я напісала сёньня, вы будзеце першы, хто яго пачуе». — «Я?!.» — «У бары ёсьць яшчэ адна пляшка». Я верыў і ня верыў. Я… дык я, канечне… вядома, я хуценька… «Ну што ж вы?» Яна паклала сваю руку на маю руку, і мы…

Бульк! Корч пад нагамі пачаў нясьпешна і няўмольна асядаць. Страшна. Я намацаў пляшку і падрыхтаваны падарунак, які назаўжды застанецца пры мне.

— Э, ачкарык, закурыць не найдзёцца?

Мэтраў за дзесяць ад мяне зьявіўся абрыс постаці. Хмара зноў выслабаніла поўню, якая асьвятліла чалавечка неакрэсьленага ўзросту ў кірзачах, гарнітуры, бэйсболцы на галаве і з вудай у руках.

— Ты ня бачыш?

Я па калена засеў быў у багне.

— Высунь левую нагу ў бок таго цьвятка. Так. Другую траха ўпірод, тока бліжэй. Гэна, ціпер трохі павярніся. Ня ў ту сторану. Ага, сюдой. Ціпер прыгай да куста. Дзяржы вудачку… Ну во, ачкарык, а ты баяўся.

Чалавечак паказаў гнілаватыя зубы.

— Што курыш? «Парламент»? Ні фіга сабе! Гарадзкі, што лі?

— Слухай, дзядзьку, як мне выйсьці на дарогу да…

— Ты дурны? Якія тут дарогі? — адказаў чалавечак і разам з вудай нырцануў у хмызьняк.

Я пагробся праз зарасьнік у адваротны бок. Убок поўні.

* * *

Адэльчын дом стаіць на самым высокім пагорку ў ваколіцы. Да дому вядзе яжджа-

лая дарога: Адэля ня любіць быць на самоце і заўжды чакае гасьцей. Я цудоўна памятаю гэтую дарогу, бо апошняя наша сустрэча адбылася менавіта тут, на Высокім Пагорку. Ну, не тое каб сустрэча… Яна адмыслова патэлефанавала і запрасіла. Ехаць не хацелася. Я ж ведаў… Але яна ўмее прасіць: «Мурр, мне сумна, мне самотна». Я скокнуў у машыну. На гадзіньніку пераваліла за поўнач. Як я ляцеў па начным горадзе, як сьвідраваў сваім аўто пругкі слой атмасфэры, як узахлёб лічыў марудныя імгненьні! Як жа я ненавідзеў мёртвага ўжо кіроўцу, які акурат на скрыжаваньні абводнай дарогі і шашы ўпіліўся ў фуру і заблякаваў рух.

Я спазьніўся. Я гэта зразумеў адразу. Нават ня выключыў рухавіка. Побач ужо стаяла іншая машына. Я зайшоў у прыадчыненыя дзьверы і пачуў, як у залі рыпіць канапа і нехта стогне…

Бац! Вялікае, жывое, моцнае… Калі траціш прытомнасьць, ніколі ня ведаеш, колькі часу гэта доўжылася. Выглядае, што я ляжаў паваленны адно некалькі сэкундаў, бо лось (лось?) зусім побач прабівае сабе дарогу напрасткі праз гушчар. Ці ён спужаўся мяне, ці папросту сьпяшаецца па тэрміновых справах? Падымаюся, валюся, станаўлюся на карачкі. Акуляры пагнуліся, але не пабіліся, ляжаць побач з

рукой. Падарунак у кішэні працінае болем бок. Па дарозе, пракладзенай жывёлінай, перабіраю нагамі, а часам рукамі. Ужо блізка. Блізка, Адэля…

* * *

На вялікім лужку перад домам стаяць сталы, на якіх – бутэлькі, закускі і кветкі. Усё вакол асьветлена адмыслова прывезенымі пражэктарамі. А таму я ўжо здалёк бачу правым вокам (левае заплыло) гасьцей. Экс-саліста опэрнага тэатру цяжка пазнаць: мае чорны твар ад запечанай крыві. Смокінг — нібы сьцягнуты з пудзіла, якое памачалі ў сіласную яму. Адна рука саліста неяк ненатуральна боўтаецца, другой ён трымае плот, каб не паваліцца. Астатнія наведнікі нібы двайнікі саліста — такія ж парэпаныя, пакамечаныя: іх дзесяць, дваццаць, легіён? Большасьць зь іх я ведаю калі не па імю, дык у твар.

Вунь руды, падобны да тхара мэн — вядомы ў краіне бізнэсовец. А вунь цыбаты хлюст з моднай фрызурай — дырэктар камэрцыйнага тэлеканалу. І таўстунабарадача ў чорных (гэта ноччу!) акулярах ведаю — паэт…

Я ўжо ўзьняўся з карачак і кульгаю да сшэрхлай грамады. Усе маўчаць. Глядзяць на дзьверы дому. А можа, сабе ў сярэдзіну. Я сьціскаю падарунак у кішэні. Да хрум-

сту сьцяў пальцы непашкоджанай рукі. Колькі цягнецца маўчаньне? А жыцьцё? А імгненьне?

Бязгучна праляцеў кажан. Бязгучна прапоўз вужака. Бязгучна з-за плоту бліснулі вочы ваўчыныя. Рыпнула масьніца ў доме, павярнулася клямка...

Я ня вытрымаў і выхапіў з кішэні вялікі срэбны рэвальвэр, набіты вялікімі срэбнымі кулямі. І тады астатнія імгненна павыхоплівалі свае пісталеты.

Дзьверы расчыніліся, і на ганку паўстала юбілярка з гітарай у руках:

— Мурр, хлопчыкі... Гэты раманс я прыдумала проста цяпер. Вы будзеце першыя, хто яго пачуе.

І ўсьміхнулася сваёй усьмешкаю.

# Вільня ў канцы тунэлю

Міленіюм я сустрэў задніцай. Для кагосьці Новы год прыходзіць са звонам курантаў, для кагосьці – пад цюканьне жалезных кубкаў, для кагосьці – з ранішняга паведамленьня па тэлевізіі, маўляў, наступіў-такі. Я сустрэў апошні год другога тысячагодзьдзя на віленскім Катэдральным пляцы. Выбух салюту ляснуў мне ў сьпіну. Калі я ня вытрымаў чаканьня ды рушыў, адкуль прыйшоў – у бок вакзалу, побач зь якім ва ўтульнай кватэры мяне чакаў сьвяточны стол.

Як сустрэнеш Новы год, так яго і пражывеш, а ў момант міленіюму я быў поўны рашучасьці. Хіба я ня памятаю рашучасьці на якую справу, бо ледзь трымаўся на нагах ад алькагольнага перадозу.

Вільня ў мяне асацыюецца з алькаголем. І зь зімой.

Вільня ня можа быць Горадам сонца, гэта Горад пад начным зорным небам. А яшчэ Вільня – Горад прывідаў, якія могуць цябе зьнесьці. У тваёй галаве шпацыру-

юць, працуюць, ядуць, танчаць і выпіваюць скарыны, ластоўскія, луцкевічы, міцкевічы, луцэвічы, гарэцкія, тарашкевічы... Дзядзькі антосі, казікі, юзікі... З кожным кілямэтрам, з кожным кілішкам яны робяцца рэальнейшыя.

Па прыезьдзе ў Вільню мясцовыя літоўцы выглядаюць, усё роўна як выяўленыя на няякасным галяграфічным малюнку: абрысы няпэўныя, трохмернасьць празрыстая, ці то ёсьць яны – ці то няма іх. Прывіды, адным словам.

Ёсьць яшчэ прывіды – мясцовыя нелітоўцы, якіх я і мае сябры клічам проста – славішы, але гэтыя – прывіды ў квадраце. У экзальтаванага адраджэнца-цьвярозьніка ўся гэтая хеўра можа выклікаць прыступ дэпрэсіі. Але ў пітушчага жыцьцялюба-рамантыка прывіды-тубыльцы саступяць месца прывідам-нацыянальным пэрсанажам. У тых, хто едзе ў Вільню першы раз.

Я выйшаў зь цягніка Менск-Вільня за сорак хвілінаў да Міленіюма ці не ў пяцідзясяты раз за жыцьцё. Дакладней, вываліўся, нібы набіткаваны мех, і хістка, але ўпэўнена нырцануў у нетры Места: далей і глыбей – да водарасьцяў, да камянёў, да ракушак, русалак, вадзянікоў... Праз карчы, завалы, міма балотнага глею да вядомых аднаму мне пясочных затокаў.

***

Вы калі-небудзь кулялі сьвяточны стол? Я кульнуў. Праўда, гэта было ўвечары 1 студзеня, і на стале заставаліся адно парэшткі сьвяточных страваў. Я зрабіў акт пратэсту супраць зьдзекаў з маіх пачуцьцяў. Я паставіў кропку. Пакінуў іх цалавацца і пайшоў.

Калі вы зьведалі хаця б крыху віленскіх вулак, дворыкаў, касьцёлаў, галерэяў ды музэяў, калі вы трохі набрынялі крывіцкім духам і літоўскім півам, вы заўважаеце, што Вільня – жыве. Я вось адзначыў, што чым бліжэй да вечара і да вакзала, тым менш чуваць літоўскай мовы. “Palauk (пачакай), имеешь сигарету?” Хлопец дзякуе за пачастунак і крычыць у сьпіну прыяцелю: “Marek, zaczekaj”. Марэк – на выгляд мой аднагодка, але вышэйшы і здаравейшы. На ім дзедмарозаўская шапка. Ён энэргічна, але далікатна чапляецца да дзяўчат. Марэк з прыяцелем зьнікаюць у кірунку вакзала, а я рушу па Завальнай у супрацьлеглы бок – паўз рынак у кірунку цэнтру.

У кішэнях ані цэнта. Я пазіраю то сабе пад ногі, то на ўлюбёныя віленскія зоркі. Да сустрэчнай сямейнай пары зьвяртаюся па-беларуску: “Прабачце, каторая гадзіна?” – “Дванаццатая”. – “Дня ці ночы?” – “?!” ...

“?!” ... – дакладна такая рэакцыя ў дзяжурных паліцэйскага пастарунку, які месьціцца тут жа побач, на Завальнай.

– Што мне трэба зрабіць, каб вы затрымалі мяне на ноч?

Сьмяюцца.

– Ну, давайце, разаб’ю во гэны графін на стале.

– Не-е, гэты пацягне на пятнаццаць сутак.

***

Грошай няма, але ёсьць тэлефонная картка. Ад вакзала я не аддаліўся ані на мэтар, хіба зрабіў кола. Ад Завальнай да Шапэна – тры хвіліны хады. Менскі прыяцель гасьцюе на гэтай вуліцы, таму ў маёй кішэні ўжо сорак літаў. Празь сем гадзінаў на Менск стартуе віленскі цягнік. Піва і чабурэкі ў прывакзальным кругласутковым павільёне. Што яшчэ трэба, каб камфортна сустрэць апошняе 2 студзеня тысячагодзьдзя?

Віленскія чабурэкі смачнейшыя за менскія. А дзяўчыну-прадавачку клічуць Соня. Я ў Менску прадавачак з такім імём на бэджы ня бачыў. А вось сядаюць два маладзёны – спазьніліся на цягнік Вільня-Клайпеда. Дзесьці там, у Прыбалтыцы, у жмудзкім мястэчку іх чакаюць бацькі са

сьвяточнымі прысмакамі. А яны тут даганяюцца півам. Адзін зусім ніякі – студэнты... А вось і мясцовыя рэальныя пацаны: “Сонечка, пивка, пожалуйста”. Працытаваць я працытаваў, а вось паспрабаваць перадаць акцэнт віленскіх расейцаў я магу толькі ў жывой гутарцы. Адзін з маладзёнаў пачынае мармытаць штосьці пра “русішку” (расейскую мову), маўляў, кажыце па-літоўску. “Я не понял, пацан, я чего, тебя обидел!?” –– рэальны пацан сьціскае рэальныя кулакі і дадае, маўляў, панаехала калхозьнікаў. Літовец пачынае адмазваць прыяцеля-студэнта, маўляў, даруйце п’янога падлетка. А я бяру сабе яшчэ піва.

***

Можна глядзець на зорнае неба. А можна ў яго скокнуць, калі глядзіш на адбітак на паверхні возера. А можна глядзець з вады дагары і зноў-такі скокнуць у неба. Як каму больш падабаецца. У кожным выпадку ніхто з прысутных у павільёнчыку не патрабаваў, каб я перайшоў на расейскую. Трэцяй пляшкай піва я цокнуўся з тым літоўцам, які ня спаў, і з Марэкам. Марэк зьявіўся без прыяцеля, але ўсё ў шапцы Дзеда Мароза. Марэк па-польску і па-расейску пераконваў Соню сустрэцца наступнага вечара. Соня з радасьцю пагадзілася. Ці атрымалася ў іх

што – ня ў курсе. Затое з Марэкам я прапіў апошнія літы. Уся справа ў беларускай мове. Я ёю выказваў свае думкі. А думак у мяне заўжды хапае. Асабліва іх паболела, калі Марэк пачаў адказваць мне на досыць прыстойнай беларускай мове. Не! Ён ня быў старшынёй Ліпоўскай раённай рады БНФ. Марэк, як і большасьць жыхароў віленскага раёну Ліпоўка, пазыцыянаваў сябе як паляк. Але, як і большасьць тых палякаў, у сям'і карыстаўся сумесьсю польскай і "простай" моваў. Вось пра гэтую "прастату" мовы, пра "трасянку", пра карані, пра памяць продкаў, пра Княства, пра Скарыну… я і пачаў распавядаць прысутным у павільёне.

Вы можаце высунуць справядлівае дапушчэнне, што я зрабіў мітынг у шапіку. Не. Я зрабіў штосьці сярэдняе між лекцыяй і казаньню.

Да майго цягніка заставалася пятнаццаць хвілін, а ў кішэні было грошай роўна на квіток, калі Марэк заявіў, што абавязаны пазнаёміць такога выключнага чалавека, як я, са сваёй сям'ёю. Мы прапілі мае апошнія сем літаў сорак цэнтаў і рушылі па ўжо ранішняй Вільні.

***

Ранішняя Вільня ў раёне двух вакзалаў – чыгуначнага і аўтобуснага – гэта вам ня ранішні Менск. У Менску ўсё

чыста і акуратна. Там бомжы і п’янчугі адсякаюцца мянтамі на падыходах да вакзалу. Прастытуткі не вяртаюцца з начной зьмены, бо іх даўно разагналі, а п’яныя літоўскія журналісты не равуць пра тое, што літоўскія танкі пройдуць па менскіх вуліцах. У Менску законнасьць і парадак. А ў Вільні ўсё наадварот. Можна пабачыць пралетарскі мінэт, які робіцца ў кутку між шапікаў, і алкана, які ледзь ня гіне пад коламі аўтамабіля, а перапужаны кіроўца на вачох у людзей зьбівае небараку на горкі яблык. І беларускага журналіста, які жлукціць з рыльца гарэлку ў кумпаніі караіма і літоўца. Зь імі ён квасіў усю ноч, а цяпер п’е разьвітальную ды праз імгненьне будзе крычаць, лежачы ў лужыне, “лабусы підары!”, абяцаць танкі пад бел-чырвона-белым сьцягам, а забяруць у пастарунак журналюгу паліцыянтырасейцы… Я ж кажу: Вільня – вельмі жывы горад. Праўда, не па навагодніх сьвятах.

2 студзеня 2000 году Вільня была ціхая, спакойная і прыбраная сьвежым сьнегам. Прынамсі, гэтак было на Ліпоўцы, дзе мы селі ў машыну і паехалі за дзесяць км ад Вільні ў бок беларускай мяжы.

***

Я сяджу на пачэсным месцы – леваруч ад старэйшыны сямейнага кляну, 78-гадовага дзеда грэнадэрскай выпраўкі.

Дзед адзіны, хто гаворыць са мной па-расейску. 2 студзеня – Народзіны дзядзькі Марэка, таму сям'я сьвяткуе. Пры стале дзед, дзядзька, ягоная жонка, іхняя дачка, два хлопчыкі-ўнукі, Марэк і я. Налягаю на вяндліны з кіўбасамі ды збольшага памоўкваю. Першыя пытаньні задавалі па-расейску, тады па-польску, але цяпер усе (апроч дзеда) гавораць па-беларуску (і як гавораць! у сэнсе мовы). Памоўкваць я памоўкваю, хіба ўжо пасьпеў распавесьці любімы віленскі анэкдот:

– Dzien dobry, Maryla, jak sie masz?

– Ганька, сёньня ж не нядзеля, можна па-просту.

А таксама ўсе ўжо выпілі за мой тост: "Жыве Беларусь!"

А п'ем мы ня піва, п'ем самаробную гарэлку. А таму я больш закусваю ды імкнуся як мага дыпляматычней адказваць на пытаньні пра жыцьцё ў Беларусі. А глядзяць у сям'і БТ і вельмі зайздросьцяць грамадзянам РБ. Сям'і жывецца цяжка: у іх прыватны бізнэс – два мікрааўтобусы і вялікі хутар з гаспадаркай. Я акуратна тлумачу, чым адрозьніваецца інфармацыя БТ ад рэальнага жыцьця.

– Ды ён жа нацыяналіст! – выгукае Марэк.

Справа ў тым, што мы з Марэкам ужо не такія сябры, якімі былі ў павільёнчыку. Пакрысе далейшыя размовы са мной

прывялі Марэка да правільнай высновы, што я нацыяналіст. Выснова шакавала Марэка, а мяне шакавала тое, што Марэк шакаваны сваім адкрыцьцём.

Але тут, за сталом, я ў поўнай эўфарыі. Я па-за сьпёртым паветрам РБ, у вольнай краіне, за добрым сталом, сярод простых беларускамоўных людзей! Учорашнія блуканьні вакол вакзалу падаюцца дурнаватым сном. Праўда, дзед усё кіпяціцца: не хавае сумневу. І ўрэшце наўпрост пытаецца пра маё стаўленьне да Лукашэнкі. Я адказваю, за якую частку цела падвесіў бы... І ўмэнт вылятаю з-за стала! Дзед трымае мяне за каўнер і цягне да выхаду. Жанчыны войкаюць, шэптам выбачаюцца за дзеда і нясуць за мной вопратку. На двары Марэк прапануе пабіцца (але ў мяне баліць нага ды вабшчэ), і праз хвіліну я ў кумпаніі праважатых-дзетак тэпаю празь сьнежнае поле пад ясным студзеньскім сонцам у бок Менскай шашы.

Сьвята атрымалася.

***

P.S.: Празь некалькі дзён мне са Жмудзі ў Менск затэлефанаваў прыяцель Міндаўгас:

– Ведаеш, вечарам першага студзеня па тэвэ паказвалі наведнікаў паліцэйскага пастарунку, зьнятых схаванай камэрай. Дык

адным зь першых быў нейкі вар’ят-беларус, які хацеў пераначаваць у паліцэйскім пастарунку. Во сьмяяліся!

А то! У Вільні і не такіх прывідаў пабачыць можна.

# Патаемнае жаданьне

## I. Калядная Паштоўка

Бывае сон – усё роўна як фонавае мармытаньне тэлевізара, прачнуўся – выключыў і забыўся на той сон. А бывае, суткамі ня можаш вынырнуць з убачагана сну. Углядаесься ў навакольную рэчаіснасьць, нібы рыбка праз шыбіны акварыюма.

А яшчэ бывае: раптам спасярод дня прамільгне згадка пра нейкі з тваіх колішніх сноў, жахлівых ці салодкіх. Прамільгне і зьнікне. Ты сілісься ўзгадаць – і ня можаш. І яшчэ бываюць сны, на якія не забудзесься ніколі.

Мая гісторыя пачалася за тыдзень да Калядаў. Сякія-такія справы прывялі мяне ў адно мястэчка. Дакладней, у гарадзкі пасёлак. Там спазьніўся на вечаровы цягнік, а наступны меўся быць толькі раніцой. У роспачы я пайшоў бадзяцца па засьнежаных вуліцах. Была нетыповая для канца сьнежня ноч. Спакойная, крыху марозная, але галоўнае – ясная.

Я блукаў сярод крываватых драўляных дамкоў, сярод нягеглых двухпяціпавярховікаў. Я мог пайсьці ў адзіную ў г.п. рэстарацыю, у адзіны гатэль альбо затуліцца на вакзале. Такім жа нягеглым, як дамкі і будынак ДК, дзе ў тамтэйшай рэстарацыі віравала пераднавагодняе жыцьцё пасялкоўцаў. Але я паволі йшоў па вулках, паліў і прыдумляў тэкст для новай песьні. Магчыма, вы ведаеце наш рок-гурт, які зьявіўся на сцэне ў самым канцы тысячагодзьдзя. Калі вы любіце цяжкую альтэрнатыву, дык чулі нас і бачылі на айчынным TV дакладна. Нашыя афішы рэгулярна зьяўляюцца ў многіх гарадах краіны і нават замежжа. І вось тым разам я прыяжджаў у г.п., каб дамовіцца зь мясцовымі лабухамі на невялікую суму арэнды апарату.

Калі йдзеш па пустэльнай засьнежанай вулцы, залітай месяцовым сьвятлом, рэдка думаеш пра жыцьцёвую мітусьню. Прынамсі я не думаю. Я ўшчэнт забыўся на нядаўні торг з лабухамі і пра патрэбу знайсьці грошы на запіс дэма-вэрсіі, я тварыў.

Неспадзеўкі адчуў, што ня цямлю, дзе апынуўся. Хоць г.п. не такі ўжо вялікі, каб губляць арыенціры. Да мяне таксама дайшло, што не заўважыў, як на месяц накаціла хмара і наўкола зрабілася цёмна. Ліхтароў на вуліцы няма, а ў дамах не сьвяцілася

аніводнага вакенца. Як рана тут людзі кладуцца спаць! Я зірнуў на гадзіньнік: зрэшты, для г.п. ня так і рана – амаль поўнач.

Я стаяў у разгубленасьці, але раптам пачуў гук флейты. Прынамсі, цяпер мне падаецца, што я яго дакладна пачуў. Я пайшоў вузкай сьцяжынкай між дваровых платоў. Па ёй відавочна рэдка хадзілі – сьнегу па калена. У момант, калі я надумаў паварочваць назад, выйшаў месяц і асьвяціў...

Мне падалося, што я бачыў гэты дом, калі прыехаў ранкам і шукаў патрэбны адрас. Так, дакладна! Я зьвярнуў увагу на незвычайнасьць дому. У адрозьненьне ад суседніх драўляных, дом быў з цэглы. Старой чырвона-брунатнай цэглы. Аднапавярховы, "нізкай пасадкі". Мяне ўразілі вокны дому – чорныя і глыбокія.

"Тут была катавальня", – патлумачыла бабулька, што кульгала міма, калі я стаяў і разглядваў дом. Я пацiснуў плячыма і пайшоў далей. І вось я ізноў тут. Толькі гляджу ня з вуліцы, а з падворку.

Дом акаляў невялікі сад. Побач з адным дрэвам – ці ня самым старым – мелася студня. Расчыніліся дзьверы, і на падворак скокнула дзяўчына. Высокая, ладная, з пустым вядром у руках. На дзяўчыне была адно кароткая кашулька, якая ледзь прыкрывала клубы. Басаногая, сьпяваючы нейкую песеньку, дзяўчына пабегла да

студні. Набрала вады, вярнулася на ганак, павярнула голаў у мой бок і памахала рукой. Я быў перакананы, што мяне не відно, бо я стаяў у ценю суседзкай павеці.

Весьнічкі былі незамкнутыя, ды я нясьпешна падышоў да ганку і асьцярожна націснуў на ручку дзьвярэй, якія адразу ж адчыніліся.

– Заходзьце, – усьміхнулася дзяўчына, – я вас чакала.

– Вы мяне ведаеце? Вы ведаеце мой гурт...

Дзяўчына прыклала да маіх вуснаў палец і паказала на ложак, побач зь якім стаяў маленькі столік. Я прысеў і глядзеў на дзяўчыну, якая рухалася па пакоі танцуючы. Яна не саромелася сваіх аголеных ног і кароткай празрыстай кашулі. Дзяўчына запаліла сьвечку на стале і паказала на дзьверы ў суседні пакой:

– Я туды ніколі не заходжу. Там жывуць эльфы і гномы, апоўначы яны пачынаюцьграць на флейце. Паслухайце іх, а я зьбяру сьвяточную вячэру.

Праз колькі хвілінаў мне падалося, што я сапраўды чую музыку. З вуліцы дом выглядаў такім вялікім. Але пакой, дзе апынуўся я, быў маленькі. Я агледзеўся: старая шафа, палічка з кніжкамі, колькі плюшавых цацак...

Хвіліны цягнуліся, а гаспадыні ўсё

не было. Цікаўнасьць перамагла, і я наважыўся адчыніць дзьверы ў суседні пакой. Ён быў вялікі і абсалютна пусты. Калі не лічыць вялікай грубкі, абкладзенай старой-старой кафляй. На грубцы стаяла калядная паштоўка – “Анёл ляціць над гмахамі старых камяніц”. Я не стрымаўся, разгарнуў паштоўку і ўбачыў імя адрасату – сваё імя.

Едучы раніцай дадому, я спрабаваў узгадаць, што было пасьля таго, як я выйшаў з пустога пакою. Але здолеў прыгадаць толькі, як прачнуўся ў ложку, як пабачыў запіску са словам “Дзякуй!”, як выйшаў, зачыніў дзьверы і амаль адразу знайшоў дарогу да вакзалу. Ува мне засталося пачуццё асалоды. А таксама зьявіліся трывога і разгубленасьць. Бо здавалася, што гісторыя адбылася не са мною. Нібы я стаўся ўдзельнікам чужой гісторыі.

***

Зазвычай набліжэньне сьвятаў выклікае ў мяне дэпрэсію. Ня ведаю, чым гэта выклікана. Пэўна, як сабака ня можа патлумачыць, чаму ён скавыча на поўню. Я ненавіджу шумныя п’яныя кампаніі, гэтую бессэнсоўную весялосьць, больш падобную да штучнага задавальненьня самотнікаў, якія ладзяць оргіі, каб на час забыцца на самоту. Як набліжаецца сьвята, я блукаю па Горадзе. Па ягоных пад-

земных і надземных закутках. Гэтым разам маёй спадарожніцай сталася Лена. Мы пазнаёміліся ў кавярні “Нара”.

Бывае, чым горш, тым лепш. Чым глыбей упаў, тым лягчэй пасьля ўздымацца. “Нара”, “Сьвітанак”, “Радзівіл”, “Тройка”, “Бутэрбродны-М”... Крама, кухня, канапа... Я засьпеў сябе ва ўласнай кватэры, на канапе, у момант сэксу. Я трымаў дзяўчыну за грудзі ззаду і спрабаваў здагадацца, з кім у гэты момант маркітуюся. Таня? Наташа? Насьця?..

Ранкам высьветліў, што ўсё-ткі Лена. Мы дапілі рэшткі марціні, глынулі кавы, выпалілі па цыгарэціне, я выклікаў для Лены таксоўку, і мы адвіталіся.

Я прыняў душ, пагаліўся, пераапрануўся, замкнуў дзьверы і рушыў на сьвежае паветра – чуняць. Перад выхадам з пад’езду спыніўся побач з паштовай скрыняй. Адамкнуў і знайшоў капэрту. Мяне даўно віншуюць праз электронную пошту, а ў капэртах прыходзяць адно лісты зь дзяржаўных установаў. Але капэрта была не дзяржаўная. Такая выцягнутая, вялікая, сьвяточна аздобленая.

Я разарваў край капэрты і на мае далоні пасыпаўся попел. Толькі адзін кавалак паштоўкі захаваўся – з пачаткам майго імя.

Гэта была Калядная Паштоўка.

## II. Патаемнае жаданьне

Кажуць, каб сны не збываліся, іх трэба распавесьці адразу, як прачнесься. Гэты сон я прысьніў раніцой пасьля купальскае ночы. Магчыма, гісторыя адбылася б і безь мяне. Калі б ня лета і не расчыненыя вокны.

Па шчырасьці, я ніколі не скакаў праз вогнішча й не купаўся галяком на Івана Купалу. І не таму, што ў дзяцінстве ўразіўся гогалеўскімі тапельцамі. Папросту так атрымлівалася, што ўсе свае дарослыя гады “чароўнай ноччу Купальля” я патрапляў у кампанію, якая тое сьвята адзначала ў лепшым выпадку паходам у “Папараць-кветку”.

Шчасьце ў мяне хутчэй асацыюецца ня з кветкай-аднадзёнкай, а зь няўрымсьлівай птушкай ці з чымсьці нават менш улоўным. А можа, справа ў тым, што паводле натуры я не грыбнік, там, ягаднік, і таму ідэя блукаць па лесе ў пошуках немаведама чаго выклікае ў мяне непрыняцьце.

Аднак гэтым разам на Купальле мы выбраліся-такі на адну лясную паляну за Горадам…

Цяжка з пэўнасьцю сказаць, як позна я вярнуўся, бо на прыродзе п’ецца вельмі добра. У кожным выпадку, моцным, атручаным алькаголем сном я спаў нядоўга.

Пад раніцу бадун выштурхнуў мяне з ложку. Літар кефіру на кухні, зноў у ложак, і пачаліся трывожныя сны: няўцямныя ўрыўкі, няпэўныя сытуацыі, людзі-ня людзі... Немаведама што.

Як хто, а я навучыўся маніпуляваць уласнымі снамі. Гэта магчыма толькі на сьвітаньні, незадоўга да таго, як арганізм зьбіраецца абуджацца. Памятаеце "Палёт пчалы за сэкунду да абуджэньня" Сальвадора Далі? Карцінка фантасмагарычная, але той, хто яе бачыць, ужо ведае, што гэта сон. Вось у гэты момант ён можа круціць карцінку, як захоча.

— Алё, ці добра чуеш мяне? Алё, дык слухай далей. Выйшлі мы з тралейбуса, а перад намі нейкія коміны, будынкі змрочныя. Іх бачна добра, але навокал цемра — ані месяца, ані ліхтара...

Немалады жаночы голас падаўся мне знаёмым. Зрэшты, ці мала я ведаю галасоў людзей, якіх ніколі ня бачыў.

— ...Уяўляеш, праходзім мы засьмечаны жалезьзем фабрычны падворак і неўпрыкмет трапляем у сапраўдны лес. Галя, ці чуеш мяне?..

Жанчына выгукнула апошнія словы так моцна, што ў мяне не засталося сумневаў — голас быў рэальны. Мяркую, што калі б я ўзьняўся і высунуў галаву ў фортку, то здолеў бы даведацца, на якім з пад-

ваконьняў стаяў тэлефонны апарат невядомай мне кабеты. Але сілаў не было нават каб расплюшчыць вочы. У моманты, калі жанчына замаўкала, каб пачуць адказы сваёй суразмоўніцы, я ізноў трохі прысынаў.

Урэшце, так бы яно й здарылася, я канчаткова вярнуўся б да сну. Асабіста я прызвычаіўся да штодзённых непатрэбных гукаў, якімі поўніцца дом і вуліца за вакном. Але...

— ...Дык слухай, дзеўка. Сунемся мы праз той гушчар, сунемся, як раптам ты закрычыш — а-у!.. Ага, ты закрычала, ня я. І я бачу, што мы з табой абсалютна голыя. І тады адразу ж перад намі зьяўляецца хлопец. Як апрануты? Ну, звычайна, як зараз апранаюцца — табе такія падабаюцца. Джыньсікі нейкія ў яго былі... Сінія, з латкай скураной пад правым каленам, завушніца, акулярчыкі круглыя, кашулька нейкая... Гэта, камізэлька сіняя зь зялёным... Ага, клятчастая. Так, так, заплечнічак з рудой замшы...

Я перавёў позірк на сваю вопратку, раскіданую вакол фатэля. Сон зьнік — нібы й не было.

— ...Я пытаюся — скуль ты ўзяўся, ён кажа — скуль і вы... Па што і вы прыйшлі... Гляджу — цябе няма... А ён кажа, маўляў, ідзі ты, цётка, у той бок — вернесься да-

дому, ты мне й не патрэбная зусім… Ідзі апраніся – тут купальскі лес, а ня лазьня… Алё, алё, чуеш мяне, Галя? Цьху, чорт, што за сувязь.

Я ня спаў, але вочы пакінуў заплюшчанымі. Я на сябе раззлаваўся. Трэба было адразу ж фортку зачыніць ды заняцца сваімі справамі. Голас змоўк, але я працягваў ляжаць, аж пакуль не зазваніў мой уласны тэлефонны апарат. Я выпаўз з ложку і падняў слухаўку.

— Дык слухай! Галя, дай я канцоўку распавяду. Пайшла я з паляны, але праз колькі крокаў павярнулася назад. Вяртаюся, а ты стаіш каля дрэва голая і ўся гарыш. Уяўляеш?! І тут я бачу, што гэта зусім ня ты. Нейкая іншая дзяўчына: высокая, у кароткай празрыстай кашульцы.

Я сабраўся быў адказаць, што кабета памылілася нумарам, але чамусьці не паверыў, што яна памылілася. Таму толькі прасіпеў у адказ: “Галя тут болей не жыве” і паклаў слухаўку.

Галава разламывался на дробныя й буйныя кавалкі. Я зь цяжкасьцю ўзьняў сваё цела з ложку і пасунуўся да лазенкі, дзе пакінуў сінія з латкай джынсы, кашульку, клятчастую камізэльку… Я апрануў свае круглыя акуляры і ўгледзеўся ў сьмярдзючую вопратку, спрэс запэцканую сажай. Мяне званітавала.

Я сабраў сілы разам і пацягнуўся да вакна, каб нарэшце пабачыць, хто ж з суседзяў размаўляў па тэлефоне, каб дазнацца, усё высьветліць. Я доўга і пільна ўглядаўся.

Усе вокны былі зачыненыя.

# Майская сага

– Што ж, дзеткі, раскажу я вам як ёсьць пра Кацюшу, пра Кацьку нашу, – Панас Валяр’янавіч палез у кішэню пінжака па цыгарэты ды адразу схаваў сваю “Прыму”.

Вокны 6 “Б” клясы былі адчыненыя, на двары квітнелі яблыневыя сады.

– Сам я не мясцовы, нарадзіўся ў Польшчы, пад Стоўбцамі. А ў вашых лясох апынуўся пасьля абкружэньня. Ішоў сам-адзін да нашых. А куды – і ня ведаў, глядзеў па зорках, што нібыта на ўсход. Вёскі абыходзіў стараной, бо ня ведаў, ці ёсьцека там немцы. Ішоў, як воўк, па начох. Згаладалы быў, абадраны. І вось аднаго разу заснуў я ў лясным хмызьняку, а сон быў чуйны, за кожным хрумстам, кожным шоргатам мне трызьніўся фрыц са “шмайсэрам”.

І вось чую зусім блізка: шух-шух, чпок-чпок, шух-шух, чпок-чпок… Ляжаў – не варушыўся. Але хрумснула галінка пад маім бокам, і ўмомант над галавой засьвісталі кулі. Пазьней я дазнаўся, што гэта Кацьчыны былі кулі, зь ейнага ППШ – адзінага на ўвесь атрад. Бо лепшага ад яе

стралка не было сярод народных мсьціўцаў. Што мяне ўратавала? Хіба ноч. Я закрычаў: “Свае!” Але ўмэнт навалілася на мяне з-за сьпіны сіла, і скруціла, і заламала руку. Гэта Кацюша падкралася і мяне скруціла. А тут і ліхтарык мне ў твар. Хлапец адной рукой трымае, а другой шырынку зашпільвае. Пайшлі.

Камандзір спраўдзіў мае дакуманты. І пачаў я служыць за Родзіну ў атрадзе. Адразу ў лягеры пры вогнішчы я разглядзеў твары маіх новых знаёмых. Адзін – хлапец – звычайны вясковы бэйбус. Рабаваты, вочкі хітраватыя, нібы пад дурня косіць, а сам у кішэні дулю трымае. Васіль яго звалі, не ўзьлюбіў я яго адразу ж. А Каця...

Удзівіцельнейшы гэта быў чалавек, дзеткі, удзівіцельнейшы. Вось вы яе ў сваім лісьце завеце “таварыш Андрэева”, “піянэрскі атрад імя партызанкі Андрэевай”... Вось у лісьце напісалі, што на саракавыя ўгодкі Вялікай Пабеды хацелі б насіць імя вашай адважнай зямлячкі...

Напачатку атрад быў невялікі, усе мясцовыя. Хто з раёну, хто з навакольных вёсак. Было пару хлапцоў, што выйшлі з абкружэньня, таксама мясцовыя. Камандзірам быў райкомаўскі Генадзь Пячонка, і жонка была ягоная, Лідзія Мікалаеўна. Пазьней, калі зь вялікай зямлі закінулі падмаца-

ваньне, яшчэ Тацяна-радыстка зьявілася. Іх зь Лідзіяй Мікалаеўнай адным снарадам накрыла пасьля. Ну ды мы ня плакалі доўга, бо ж надта ядавітыя бабы былі. Не любілі яны нашу Кацюшу. А яна душэўны быў чалавек… Цёплы. Ніхто лепш за яе ня мог у рукапашным баі біцца, ніхто лепш не страляў па дзьвіжушчайся мішэні, ніхто лепш ня ведаў лекавыя расьліны… А якую яна ціснула самагонку! Мама дарагая. Раны перавязвала, баршчы варыла, калі было з чаго. Вочы сьціпла патупіць, але слова добрае скажа, падтрымае, када грусна.

Бывала, прыйдзе які баец з заданія, яна яму распрануцца паможа, вады гарачай паднясе, рушнік. Сотку з агурчыкам. І скажа баец пасьля: "Зрабі ласку, Кацюша". Возьме Кацюша байца за руку і павядзе ў хмызы за базай, калі лета. А калі халодна, дык у зямлянку. А ласку Каця рабіць умела, як усё – добра. Падоўгу зь зямлянкі байцы не выходзілі, калі з Кацяй ішлі. А пасьля баец шчэ там млеець, зь сёмага неба паціху планіруе, а Кацюша ўжо пры іншай справе. То аўтамат разьбярэ – змажа, то вады наносіць – бражку забалтае, то, глядзіш, кашулькі партызанскія пасьцірае ды сушыцца разьвесіць.

Любілі байцы сваю паплечніцу, любілі і цанілі. Не скажу, каб на твар надта прыгожай была, бачыў я і прыгажэйшых.

Радыстку Таньку, напрыклад. Але хрэна тая радыстка каму нахвіг была патрэбная, нават з трафейнай касмэтыкай на мордзе...

Валяр'яныч расхваляваўся і зноў дастаў цыгаркі. Тужліва паглядзеў за вакно і працягваў:

– Кацярына красой унутранай брала, някідкай такой, чалавечай красой, душэўнай. Памятаю, пайшлі мы першы раз у начны дазор удвох. Мяне ж не адразу на заданьні сталі пасылаць. Прыглядаліся спачатку, правяралі. А калі прызналі за свайго, паставілі ў чаргу на сумесны дазор з Кацярынай. І гадзіны не праляжалі побач ў варонцы ад снараду, як навалілася на мяне туга невыносная, невытлумачальная. Паклаў я Каці галаву на плячо, пяцярню – на грудзі ейныя вялікія, пругкія, а далей... Далей яна сама ўсё зрабіла. Колькі ў мяне пасьля жанчын было! А так яны рабіць ня ўмелі. Нібы душу праз тое месца зь цябе выцягвала, а пасьля абратна вяртала, уверх-уніз, уверх-уніз...

Улетку 1943 з самалёту скінулі нам чарговы баезапас, харчы і... палітработніка Алёшу. Масквіча. Ён быў хацеў, каб яго звалі Аляксеем Паўлавічам, тада таварышам старшым лейтэнантам, але пасьля першага ж бліжняга бою зьмірыўся з "Алёшам". Ясна, ледзь не абасраўся пад агнём станковых кулямётаў, зь якіх фры-

цы нас палівалі, калі мы бралі харчовыя склады на станцыі за райцэнтрам.

Ох, бяда будзе, падумаў я, убачыўшы Алёшу. На Васіля зуб прапаў адразу ж, як пабачыў я таго госьця з бальшой зямлі. Не люблю худых, прышчавых, зь цёмнымі рэдкімі валасамі і бляклай скурай. Зубы, рэдкія, гнілаватыя, подла так шчэрацца, цьху, бля!

Апэрацыю на станцыі правялі пасьпяхова. Заслалі Кацю, тая прыбрала ахову, а далей была простая справа. Вярнуліся ня тое што з мукой і крупамі – нават з шакалядам і казённым нямецкім шнапсам! І наладзілі мы весялуху. Пасьля трохсот пяцідзесяці глядзім – палітработнік Алёша ачуняў, нос задраў. А Каця з намі чокаецца, але ў гамонку не ўступае, сарамліва сядзіць далей ад вогнішча, у мужчынскія размовы ня лезе.

А ўжо месяцы са тры, а можа і пяць, як мы бязь Лідзіі Мікалаеўны і радысткі Танькі засталіся. А хлапцы расслабіўшыся былі. Ведалі, што пасьля такой апэрацыі з цэнтру тыдні з два заданьняў ня будзе. Валодзя-кулямётчык, што бліжэй да Каці сядзеў, кажа: “А зрабі, дарагая, мне ласку. Што? А! Смакчы проста тут, усе ж свае”.

І панясласць! Ясна, хлапцы жартавалі, парады давалі, але бяз злобы, па-сяброўску. А вогнішча то разгарыцца, то патухне.

Калян на гітары затрынькаў, толькі камандзір адзін хроп на шынялі (слабы стаў)… А вось Алёшы не было ў той момант, пэўна, адліць хадзіў. І тут выходзіць зь цямрэчы: “О-ба-на!” А сам хістаецца, ледзь стаіць на нагах. “Ніх…я сабе”, — гаворыць. – “Дык дайце ж я другім нумарам ёй ракам засаджу,” – гаворыць.

А трэба сказаць, што Кацярына сільна не любіла матную лаянку. А палітработнік – тэп-тэп, і давай ззаду прыстройвацца да галубушкі нашай. Дарма ён боўт свой маскоўскі дастаў, бо Каця нават не спынілася – бац нагой, і проста па яйцах. Ад той пары затаіў Алёша на таварыша Андрэеву лютую нянавісьць.

Доўга ён пасьля да Каці не падыходзіў. Мы яго і так супакойвалі, і гэтак. Маўляў, ну чаго па п’яні не бывае. А той заўпарціўся. Рушнік з Каціных рук ня браў, ежу сабе сам наліваў, але ўрэшце пачаў адыходзіць, дазволіў парцянкі свае сьмярдзючыя сьціраць.

А бліжэй да наябарскіх глядзім: то цэпачку Каці падорыць, то гадзіньнічак які калябаранцкі. Сёмага ізноў гулянка была добрая. Ажно спахапіліся, ані Каці, ані Лёшы нямашака. Няма і няма, дзела маладое. Але заходзіць Каця, расчырванелася, пэўна, на марозе, а маразы тады ўжо ў лістападзе былі ого-го якія! “А дзе Лёша?” – пытаем. Толькі плячыма

паціснула. Знайшлі мы палітрука ў гаспадарчай зямлянцы: губа набрыняла, броў расьсечаная, за бок трымаецца, за рэбры. “Што, — жартуем, — пад варожы абстрэл патрапіў?” – “Сіфілічная ваша Кацька, вось што”. – “А-а-а, — кажам, — дык ты аналіз браў”. А той працягвае: “Ды й ня баба гэта, пэўна, вы ж бяз портак яе ня бачылі”. А і праўда ня бачылі. Дык што?

Ня ведаў Алёша, што я ў Войску Польскім у 1936-38 гадах у сувязі служыў. Разгадаў я ягоныя коды бясхітрасныя ды падслухаў, як ён пра “здрадніцу” стучаў-выстукваў на сэаньсе сувязі з цэнтрам. Расказаў хлапцам, і той жа ноччу закапалі мы цела “ўбітага ў няраўным баі краснага камандзіра”. Але факт застаўся фактам: Кацярына ніжэй пояса не давала.

У 1944 мяне параніла ў руку, калі прабіваліся насустрач нашым. Далей быў урачысты ўваход савецкіх войскаў у вызвалены горад. Паперадзе на танку ехаў малады палкоўнік, грудзь уся ў ардэнах. Першай з букетам кветак выскачыла дзяўчына. Яна ледзь ня скокнула пад бранявую машыну. Я бачыў, як палкоўнік на сэкунду спыніў позірк на Каці і павярнуўся да натоўпу – рукой махаць...

Панас Валяр’янавіч адчайна махнуў здаровай рукой, падыйшоў да расчыненага вакна і запаліў.

– Вось вы пытаецеся, дзе можна ад-

шукаць згадкі пра “легендарную партызанку Кацярыну Андрэеву”. Каб ня ваш ліст, рабяты, дык, пэўна, не вярнуўся б я ў гэтыя мясьціны ўжо ніколі. Бо ў сорак чацьвертым пасьля ўрачыстага шэсьця войскаў сталася мне тужліва-тужліва. Нібы зразумеў я, што скончылася штосьці добрае, штосьці такое, што ўжо не паўторыцца. Я думаў пра Кацю і баяўся прызнацца сабе. У чым? Нават ня мог патлумачыць словамі. Я блукаў па беразе ракі, па самых пакручастых адхонах, пад якімі бурапенілі магутныя і хуткія плыні, па-над самымі небясьпечнымі вірамі. Далёка за горадам, нават аўтабазы відаць не было.

Тым вечарам я пабачыў Кацярыну здалёк. Белая сукенка, раскіданыя на ветры валасы. Каця прыціскала да грудзей папяровую картку і глядзела на заход сонца. Я зразумеў, ШТО мусіць адбыцца, і пабег да дзяўчыны. Я пасьпеў пабачыць выяву на фотаздымку – той самы палкоўнік, бачаны сёньня, толькі маладзейшы, у форме малодшага камандзіра.

– Мне няма чаго жыць, Панас, — сказала Каця. – Усе гэтыя гады я берагла сваю цноту для яго аднаго. Ты ведаеш, што ня зможаш мне зашкодзіць зрабіць тое, што я мушу зрабіць.

Час для мяне спыніўся, а пасьля пачаў імчаць у тысячу разоў хутчэй. “Што

рабіць?! Што рабіць?!” – пульсавала ў маёй галаве. І тады я папрасіў:

— Зрабі ласку напасьледак.

Каця ўсьміхнулася так задуменна і стала на каленкі. Душа мая ізноў зрабілася маленькая-маленькая, ізноў перацякла ніжэй жывата ў маленькую шаравідную прастору бяскостай ткані, але мозг працягваў шалёна працаваць – што рабіць?

Я зноў папрасіў Кацю зрабіць ласку, але разумеў, што доўга так не працягнецца. І раптам выгукнуў:

— Слухай, Каця, а давай у жопу.

Накацілі хмары, вецер пачаў хіліць кроны дрэваў долу. Я амаль не спадзяваўся, але Каця павярнулася, а парыў ветру задраў ёй сукенку. Пад сукенкай нічога не было. Я быў першым мужчынам, якому яна безабаронна адкрыла сваё сакравеннае, сваё самае-самае, беражонае толькі для АДНАГО. Я да сьлязы быў крануты — наколькі яна мне верыла і не чакала ад мяне падману.

Спачатку ішло туга, але па-ціхутачку, па-малютачку справа рушыла. Вецер скавытаў, нібы дзікі зьвер, але ён ня мог заглушыць крыкі і стогны Каці. Першыя стогны жарсьці ў ейным жыцьці.

Ня ведаю, колькі цягнулася насычэньне плоці, кепска памятаю, як мы дабраліся да гораду і як разьвіталіся ля ейнага пад’езду. Памятаю, што фотаздымак Кацярына

не парвала і ня выкінула. А назаўтра я зразумеў, што не змагу жыць бяз Каці, што не змагу зьмірыцца зь ейным палкоўнікам, які назаўжды затачыў яе ў манастыр безатветнай любві. Зразумеў, што я кахаю Кацю.

Раніцой я пакінуў горад. Далей былі сталінскія будоўлі ў розных кутках нашай неабʼятнай Родзіны. Унівэрсітэт, настаўніцтва ў роднай вёсцы на Стаўпеччыне. І вось я тут, у вас. Больш пра Кацярыну я нічога ня чуў.

Панас Валярʼянавіч стаяў сьпінай да зьнямелых шасьціклясьнікаў і паліў ужо трэцюю цыгарэціну.

– Атас! Гарынічна! – закрычаў старшыня атраду Грышка.

Але было позна. Недапалак паляцеў у адзін бок – за вакно, а Валярʼяныч у другі – на падлогу. Так і прыціснуўся тварам да брудных дошак з заламанай за сьпінай рукой.

– Што гэна за блядзь у памяшчэньні курыць! Пры дзецях, блядзь, валасы сівыя, а нарушает.

Валярʼяныч быў рыўком пастаўлены абратна на падлогу. Жаночы голас зьвінеў рашуча, з мэталёвінкай:

– Ну, блядзь, паглядзім… Вой!.. П-а-н-а-с?

– Кацярына?!!

Аслупянелыя піянэры ўжо праз вокны

чулі працяг дыялёгу.

– Куды ж ты падзеўся тады, у 1944? Я ж цябе чакала-чакала. Я ж ноч думала-думала і нараніцу рашыла – дам. Толькі табе.

– І як склаўся твой лёс, Каценька?

– Які там лёс? Во, вартую гэную яба… ную школу, каб яна згарэла… Як добра, што ты прыехаў, а то ж я чакала-чакала…

– Ты ДАГЭТУЛЬ чакала?! І ні зь кім?!

– Не, ні зь кім. Я такая, калі рашыла, значыць рашыла. Ідзем, ідзем да мяне.

– Але, Кацюша, у нашым узросьце…

– Я табе дам у нашым узросьце! Зара' толькі дойдзем, толькі дзьверы закрыем, я табе такі ўзрост зраблю, загойсаеш, як малады!

***

— Гэна ж трэба, а-я-я-я-й, ну маладзец, прыехаў-такі…

А я ж як адчувала бульбачкі начысьціла бялізну пасьцірала гарэліцы зрабіла хлапцыпрыходзілі кажуць бабакацяпрадай аяімхуйвам анегарэліцы казлываньючыя нудобраштопрыехаў яжнізькімдляцябе хавалакабтолькізтабой задным аўчораіванаўназаходзіла

солі прасіла аяёйатрасцытабеанясолі тымнеяшчэзапалкіневярнулазтаготыдня…

# “Здрайствуй, Вася!..”

Пісьменьнік прымружыў вока і пагразіў пальцам кату. Падступны кот-хітрэц прыбраў лапку ад елкавай цацкі. Аблезлы шкляны перчык вырабу канца 50-х жвава гойдаўся на галінцы. Ялінка стаяла ў куце побач з выхадам на бальконам. Направа ад дзьвярэй стаяў кампутар – там, дзе раней узвышаўся тэлевізар.

Пісьменьнік сербануў, паставіў пляшку каньяку на журнальны столік за сваёй сьпінаю і павярнуўся да манітору:

...Ой Васёк, Васёк, не васёк мяня,
Не васёк мяня, маіх тры ru@bla.

Пісьменьнік задаволена агледзеў плён сваёй творчасьці і націснуў Enter. Вершык ператварыўся ў факт віртуальнай, то бок інтэрнэтавай, прасторы на адным з сайтаў, на адным з форумаў, які так і зваўся – «Вершы пра Васька”.

Пісьменьнік паглядзеў у бок дзьвярэй на балькон. Там, за дзьвярыма, віравала жыцьцё аматараў віраванага жыцьця: бесперапынна выбухалі пэтарды, раке-

ты, фэервэркі ды іншая падобная трасца. Нападпітку, п’яныя і п’янюшчыя падлеткі, ды ня толькі яны, гарлалі песьні, фразы й асобныя літары.

Ехаў Вася цераз рэку,
Еў катлету, піў віно,
Думаў, плёну будзе многа,
А на выхадзе – гаўно!

Enter.

“Бляха, вось выйду зараз на балькон і крыкну – МУТАНТЫ!..”

“Але ж нават калі скокну ўніз (сем паверхаў) – хрэна хто заўважыць”.

Пісьменьнік каўтнуў каньяку і набраў нумар тэлефону:

– Дамброўскі, ты мутант, – млява паведаміў Пісьменьнік.

– Ну, дык не пытанне! – радасна адгукнуўся Дамброўскі. – Па пяцьдзясят?

Пісьменьнік моўчкі паклаў слухаўку. Кот уважліва сачыў за гаспадаром, але з-пад канапы не вылазіў.

У адным сяле, ня важна дзе,
Хадзіў Васёк па магазіну,
Ён піва піў, еў мармэляд
І марыў трахнуць цёцю Зіну.

Enter.

Кілішак. Тэлефон:

– Бляха, Дамброўскі, ты проста рэдкасны мудак.

Адбой.

“Калі ўжо прыйдзе Новы год? Якія суткі засталіся...”

Кот асьцярожна вылез з-пад канапы на дыван і нясьпешна скіраваўся да ялінкі. Пісьменьнік запаліў цыгарэціну, адчыніў балькон, каб выходзіў дым, і ўтаропіўся ў манітор, які адлюстроўваў рудую нахабную пысу ката:

– Яшчэ адзін крок – і паляціш за борт.

Жывёла спынілася, пастаяла і вярнулася пад канапу.

Пісьменьнік ізноў набраў нумар, дачакаўся фразы “Ну?” замест “Алё?” і паклаў слухаўку.

Здрайствуй, Вася, Новы год,
Дзе-нідзе кудлаты,
Ты куды ідзеш-брыдзеш?
Адвэнтыст пархаты!

Недапалак паляцеў за балькон. Кот зрабіў выгляд, што пайшоў па справах у іншы пакой. Кампутар завіс і праз хвіліну адвіс. Скавыш вымусіў чхнуць два разы. Але Пісьменьнік не сьпяшаўся падняцца з крэсла, каб зачыніць дзьверы на балькон. Цьвяроза ацаніў колькасьць каньяку ў бутэльцы, каўтануў і набраў нумар:

– Дамброўскі, хочаш, я разаб'ю табе тваё хлябала?

– Га?! Па пяцьдзясят? Ну дык не пытанне, праз пятнаццаць хвілінаў дзе заўжды. ОК?

– Давай.

***

Бомж Валодзя павітаўся з надзычайнай павагай. Валодзя сам па сабе чалавек далікатны і ветлівы. Ён прыстрасьціўся начаваць побач з кватэрай яшчэ да таго, як Пісьменьнік зьняў гэтую хату. Валодзя меў асадзістую бараду, выглядаў на няпэўны сталы ўзрост, заўсёды быў вымыты і выпраны, хіба толькі зрэдзьчасу абсіраўся ад перабору.

– Ну вы даёце! Вас учора капітан і старлей прывялі. Кажуць, ціпа, шаноўны, ці сапраўды гэта вашая кватэра? А калі вы адчынілі дзьверы, сказалі, маўляў, вы, шаноўны, так ня ўсердзтвуйце, беражыце сябе. Пажадалі спакойнай ночы ды пайшлі. Але як вы вярталіся, дык тое была незабыўная сцэна!..

Але Пісьменьнік, ня даўшы Валодзю скончыць фразы, сунуў яму ў руку купюру – на бутэльку павідла, а таксама на навагодні заказ, ужо для сябе.

– Харошы ты чалавек, Валодзя. Led Zeppelin любіш, Сартра чытаў, уры-

вак з “Новай Зямлі” ведаеш (“Калі заколеш вепрука ты / Ды не пабегаеш за хату...”). А ноўтбука ня маеш. Быў бы ў цябе пашпарт, я б праспансаваў табе штамп на выезд. Знайшоў бы ты на сьметніку ў Нямеччыне ноўтбук, мы б з табой творчасьць Ясунары Кавабаты абмеркавалі.

“Состояние”. Менавта гэтае слова круцілася ў галаве Пісьменьніка ў момант абуджэньня. Функцыя “Состояние” на абразку падлучэньня да інтэрнэту з раніцы паказала 36 гадзінаў. Пісьменьнік, чакаючы Валодзю, калі той прынясе з крамы замоўленыя тавары, пераглядаў свае рухі ў інтэрнэце за апошні час.

Паводле “суседа па лесьвічнай пляцоўцы”, Пісьменьнік вярнуўся дадому а трэцяй ночы.

А прачнуўся ён а 13-й.

Так, што на маніторы? “Вася, Вася”... “Дамброўскі мудак”... “Ахвігець”... Пісьменьнік ня стаў глядзець астатнія 28 адчыненых вакенцаў, ён іх пазачыняў і пацёгся да ўваходных дзьвярэй.

Валодзя вярнуў рэшту, а таксама ўручыў пакунак з бутэлькай гарэлкі, трыма бутэлькамі піва, вэнджаным куранём, паўкіляй марынаванай капусты, літрам апэльсінавага соку і пачкам “Winston”.

Руды кот прафэсійным жэстам абнюхаў пакунак. Да надыходу сьвята заставалася менш за суткі.

Зь мінулай ночы Пісьменьнік памятаў толькі адну карцінку. Яны з Дамброўскім і прыяцелем Валікам з плястыковак п’юць “жалудкову”, прывезеную Валікам з Варшавы. Па цэнтральнай вуліцы валіць народ, падае сьнег, а побач у вітрыне гандлёвага цэнтру ляжыць дзяўчына ў бікіні – рэклямуе канапу.

Пісьменьнік зрабіў сабе “адкрутку”: 100 на 100. Адламаў курыную ножку і… з лазенкі пачуўся гук вады.

Адтуль выйшла цалкам аголеная дзяўчына:

– Дзякуй табе за ноч. Твае сябрукі і мянты мяне ўразілі. Я, шчыра кажучы, ня думала, што ў імпрэзы будзе працяг, тым больш такі.

Дзяўчына ўсьміхалася амаль безь іроніі, хутчэй з замілаваньнем. Яна запаліла і села на канапу, сьпінай да сьценкі, да якой папярэдне падперла падушку:

– Вось ужо ня верыла ў навагоднія цуды… Асабліва мне спадабаліся твае допісы пра сучасную японскую літаратуру і вершы пра Васька.

Пісьменьнік моўчкі ўглядаўся ў дзяўчыну. Працягнуў папяльнічку.

– Ведаеш, спадару Пісьменьнік, мне на мыла часта розныя маньякі і падлеткі паведамленьні шлюць. Але я вельмі зьдзівілася, калі ты на маю бдзюльку на тваім форуме адгукнуўся ў прываце. “Люблю паліць, га-

варыць, бухаць і трахацца”. А потым яшчэ дадаў “Люблю японскую літаратуру, рудых катоў, Led Zeppelin і сучасную беларускую паэзію”.

Пісьменьнік стаяў зь неглынутай “адкруткай” у рукох. Па целе расьцякалася прыемная млявасьць.

– Я выйшла з гандлёвага цэнтру з бутэлькай віна ў руках. І першае, што пачула – “А ў таблішча?!” і “Ясунары Кавабата”. Вядома, віно зьнікла за колькі хвілінаў. Ведаеш, прыблізна такім я цябе і ўяўляла.

Дзяўчына працягнула руку да “адкруткі”, глынула і з задавальненьнем пацягнулася.

– Прынясі паесьці чаго, і паболей. Калі ласка. …

Перад тым як адрубіць інтэрнэт, глынуць “адкруткі” і скокнуць пад коўдру да аголенай дзяўчыны, Пісьменьнік зайшоў на адну са старонак і напісаў:

“Дзякуй, Вася!”

# Шампанскае ў шафе

*Алесі К.*

Новая сьвежая ялінка сьціпла бліскала маленькімі агеньчыкамі за сьпінай Галоўнага. Тонкая капэрта лягла на стол перад няголеным чалавекам з чырвонымі вінаватымі вачыма на пакамечаным твары. Да Калядаў заставалася колькі дзён.

– Гэта твой апошні заробак у нашай рэдакцыі, спадар А., – сказаў Галоўны й пасунуў капэрту ад сябе ў бок візытора.

Няголены А. сутаргава схапіўся за грошы, але затрымаў руку на стале:

– У мяне ёсьць новы праэкт…

Галоўны стомлена матлянуў галавою:

– Зьвяртайся ў "МіЛ". Там з рукамі адарвуць. Заплацяць – і на чарку хопіць.

– Я не магу ў "МіЛ". Я ж з вамі… ад пачатку.

– Паслухай, – Галоўны ледзьве стрымліваўся, каб не сарвацца на крык. – За апошні год ты не нарадзіў ніводнае талковае тэмы. Усе твае матар'ялы я перапісваў ад пачатку да канца. Мы трымалі цябе

да апошняга, бо паважаем твае колішнія заслугі. Але рэдакцыя ня можа бясконца займацца дабрачыннасьцю. Ты ж ня Помнік, які яшчэ пры жыцьці атрымаў права на пажыцьцёвую пэнсію. Ты звольнены, але можаш прыносіць свае тэксты. Забірай капэрту, на сьвяты мусіць хапіць. Будзем глядзець. Але я ня веру ў цуды.

***

– Ну што?! Даў? – Помнік з Кастылём выскачылі з-за рогу будынку, дзе месьцілася рэдакцыя.

Мянушка падобнага да тхара празаіка Кастыля паходзіла ад прозьвішча Кастэнка. Зь мянушкай Помніка было складаней. Мянушка ўзьнікла такім чынам. Калісьці яго звалі Шурык, і быў Шурык простым і чыстым, як экзарцыст, вясковым хлопцам, які прыехаў у Горад з глухое памежнае вёскі. І патрапіў хлопец Шурык у асяродак авангардна-элітарнага творчага падпольля. За кумпанію пачаў пісаць вершы. А калі авангард выйшаў з падпольля, зрабіўся Шурык кумірам прасунутай моладзі. На некаторыя Шурыкавы вершы нават пісалі гітовыя песьні. Зьяўленьне Шурыка на публіцы выклікала бурлівую рэакцыю. Мужчыны мелі за гонар выпіць з такім чалавечышчам, а жанчыны – ня толькі выпіць.

Адзін з колішніх творчых падпольшчыкаў ператварыўся ў пасьпяховага бізнэсоўца і ў парыве захапленьня заснаваў Шурыку пажыцьцёвую прэмію-пэнсію. Грамада верыла, што Шурык – той самы, новы Пясьняр, што праславіць Айчыну, якая адраджалася. Во тады Шурык і зажыў! Цэлая грамада жанчынак даглядала ягоную хату: гатавала, прала, прыбірала. Працоўны стол Шурыка быў аздоблены ягонымі асабістымі рэчамі, нераўнуючы як у доме-музэі клясыка нацыянальнае літаратуры – толькі пыл зьдзьмухвай. А Шурык хадзіў па Горадзе з пляшкай у кішэні даражэзнага палітона й пужаў людзей учарнелым ад гарэлкі тварам. Бывае, зловіць якога народнага мастака, ці паэта, ці старшыню якога Саюзу, ці проста добрага чалавека і прымушае выпіць зь ім – з Шурыкам! З самым-самым... Так Шурык ператварыўся ў Помнік. У прыжыцьцёвы. Самому сабе.

Пасьля знаёмцы (а было іх вельмі шмат) пачалі пераходзіць на другі бок вуліцы, як забачаць здалёк Шурыка. Пачалі класьці слухаўку, як пачуюць голас у тэлефоне. Карацей, хавацца ў бульбу пры набліжэньні цяжкіх крокаў Помніка. “А куды ж вы схаваецеся, дзетачкі мае!”

Помнік ведаў дні нараджэньня ўсіх больш-менш заўважных у горадзе творчых пэрсонаў: і вялікіх акул, і драбнейшых

рыбак. Помнік уважліва праглядаў анонсы імпрэзаў. І каб не забываліся на яго, велічнага, нагадваў пра сваё існаваньне гучна ды эфэктна. То аблае як мае якога куміра публікі проста ў часе выступу. А то чэлес выцягне ў фае тэатру ў антракце якой прэм’еры. Ці што яшчэ вясёлае падобнае выкіне. І заўжды зь вераю ва ўласную веліч.

Шурыка пачалі паціху біць. Спачатку мянты, якія ня ведалі пра ягоную значнасьць і ўнёсак у сусьветную літаратуру. Сьледам – найменш сьвядомая інтэлігенцыя. Найбольш сьвядомая і далікатная інтэлігенцыя навучылася хавацца.

У самога Шурыка проста прапарцыянальна абструкцыі ўзрастала адчуваньне ўласнае велічнасьці. Праўда, спонсарская “пэнсія” ператварылася ў нерэгулярныя падачкі – на пахмелку. Але от вялікая бяда! Падпільнуе Помнік знаёмца: “Давай паэму прачытаю”. – “Не, Шурычак, сьпяшаюся”. – “Тады налі сто грамаў...”

***

– Ну што – даў? – прасіпеў Помнік.

– Даў, – абыякава адказаў А.

– Я ж казаў, я ж гаварыў, што дасьць! – Помнік карцінна ўкленчыў на засьнежаным тратуары і ўзьняў рукі да нябёсаў, нібы той Распуцін у хвілі містычнага экстазу.

Мусіла выглядаць, што каб не “малітвы” Помніка, дык Галоўны не заплаціў бы заробку А. Сам жа Помнік баяўся Галоўнага, бо той быў адным зь першых, хто заплюшчыў вочы на велічнасьць “прарока-песьняра”, выставіўшы яго за дзьверы.

Помнік скіраваў позірк у бок зорачкі над шпілем дому, дзе месьціўся славуты ў Горадзе гастраном. А тады падскокнуў і зрабіўся мітусьліва-клапатлівым:

– На вуліцы піць ня будзем. Халодна, ды мянты тут злыя. Тыдзень таму далі дубца – дагэтуль баліць. Зараз скокну пад шпіль, вазьму дзьве пляшачкі… не – тры. Гэта, сёньня ў мастака С. народзіны. Майстэрня тут побач. Пасядзім культурна. Давай грошы.

– Дык нас жа да С. ніхто не запрашаў, – ашчэрыўся Кастыль.

– А, не пязь…і, – адмахнуўся Помнік. – А, чуеш? Давай грошы. А то магазін закрыюць, сёньня ж скарочаны дзень.

***

Ніхто не прымушаў А. даваць грошы, але ж ён даў. А. не спыняўся зьдзіўляцца фэномэну Помніка. Іншы ўжо даўно б капыты адкінуў. А гэты – аж пішчом лезе. Да таго ж, Помнік “трымаў марку”: калі й вадзіўся з “булдосамі”, дык адно з “элітнымі”: з запойнымі паэтамі, мастакамі, бар-

дамі. Чым мацней звужалася кола ягоных ахвяраў, чым больш грамада мацавала абарону, тым болей Помнік кшталтаваў свае хітрыкі. Як той прусак-мутант. Ты яму ядахімікат, а ён сьпярша зморшчыцца, пасьля раскаштуе, а наастатак ячшэ і скажа "Дзякуй, вельмі смачна". Сапраўды, трэба мець талент ці нават быць геніем. А. спужаўся раптоўнай блюзьнерскай думкі: "А можа, сакрэт Помніка – у веры? У сябе ці ва ўзвышсілы?".

– Давайце выпьем за А., – грымеў сіпаты голас Помніка за сталом у майстэрні С. – Сёньня скаціна Галоўны звольніў яго з працы. З гэтае паскуднае газэцёнкі – цьху.

– Не трындзі, Шурык, – шчэрыўся Кастыль. – Газэта добрая. Проста ты зайздросьціш. Цябе ў ёй ужо пяць гадоў не друкуюць.

– А чаму не друкуюць? – узьвіўся Помнік. – А таму, што я бабу Галоўнага таго, цю-цю.

– Па-першае, пра бабу – хлусьня. Падругое, цябе не друкуюць, бо ты ня пішаш.

– А во апошні верш: "Я ляжу ў жніве, / Вакол немцы мяне. / Схопяць ці не? / Не, не, не!.."

– Гэта яшчэ хтосьці ў пяцідзясятых напісаў – прыкалоўся.

– Та-ак? – непадробна зьдзівіўся

Помнік. – А я таксама напісаў. Значыць, сапраўды геніяльны верш. Ну, налівай.

А. кульнуў і падумаў: “Мне гамон. Самае прыкрае, што калі я задушуся, на хаўтуры прыпрэцца Помнік і зробіць сябе галоўным героем імпрэзы. Будзе распавядаць, які ён быў мне сябра. Як ён мне дапамагаў, як падтрымліваў. І што астатнія – скаты. Не дагледзелі, не дапільнавалі такога выдатнага чалавека. І толькі ён – Помнік – папярэджваў”.

***

“Якое чысло, ці пасьпею да вёрсткі нумару? – думка прымусіла прачнуцца, аднак вочы А. не разлупіў. – Нумар, здаецца, выходзіць за дзень да Калядаў. Трэба прынесьці такі тэкст, каб Галоўны выкінуў іншы горшы. Патрэбны шэдэўральны тэкст – толькі тады я маю шанец...” А. паспрабаваў расплюшчыць вочы і ня здолеў. Нос упіраўся ў штосьці мяккае са сталым моцным пахам. А. ледзь дыхаў цьвільлю, перагарам і ўласным потам ад немянянае колькі дзён вопраткі. – “Цікава – дзе я?” – ён паспрабаваў павярнуцца – нібы малаток ляснуў у галаву. А. застагнаў.

– Божухна, хто тут? – адкульсьці здалёк прагучаў устрывожаны жаночы голас.

– Не хвалюйся, Адэля, гэта карыфан Помніка й Кастыля. Прыпёрліся ўчора на

Дзень нараджэньня майго С. Тых тараканаў я разагнала, а гэтага не адужала. Адрубіўся ці ня першы. І мужык мой такі самы – імяніньнік! Назюзюкаўся ды заваліўся за халстамі. Скаціна… Поскудзь! Разьвёў у майстэрні гадзючнік. Тут такія госьцікі часам бываюць – крый Божа!

– Ды не нэрвуйся так, Галінка. Не такі ўжо й кепскі твой С. – слабахарактарны крыху. Але ж ты зь ім ужо колькі гадоў жывеш. Значыць, кахаеш.

– Ды дзе там тое каханне, – цяжка ўздыхнула Галінка. – Няма мне ўжо моцы. Ачуняе – скажу, што цяпер дакладна разводжуся, – з грукатам узьнялася з зэдліку ды патэпала да газавае пліты.

Вярнулася да стала. Наліла каву ў кубачкі і працягнула:

– І тады пачне на калені ставаць ды клясьціся, што гэта – апошні раз. Што жыць безь мяне ня можа.

Падумала.

– А й праўда – ня зможа. Шкада яго – вось і ўся любоў, – сумна ўсьміхнулася Галінка.

Жанчыны пасядзелі моўчкі, паплакалі крыху, запалілі па цыгарэціне.

– А ты, Адэлька, чаго равеш? – пацікавілася Галінка. – Ты ж маладзейшая ад мяне. Прыгожая, разумная, таленавітая…

– Вой, Галінка, толькі ня трэба на камп-

лімэнты напрошвацца, ты ж ведаеш, як файна выглядаеш, – адмахнулася Адэлька.

Галінка нібы не пачула:

– Чаго табе трэба? Сядзіш у сваіх Засьценках, як царэўна-несьмяяна. Карціны па ўсім сьвеце прадаеш. Два разы на год у Горад прыедзеш – адразу вакол хмара мужыкоў віцца пачынае. Я раз бачыла, як консул нейкі кветкі табе дарыў. Чаго ж ты чакаеш?

Адэлька пахіліла галаву:

– І ў Засьценкі да мяне прыязджаюць. Па карціны. І кветкі прывозілі, пакуль я не забараніла…

А ў Горад ня езджу вось чаму. Чатыры гады таму я сустрэла Яго. Апошні курс Акадэміі, рыхтавалася да абароны дыплёму. Занесла мяне аднаго разу на абсалютна бязглуздую імпрэзу: канфэрэнцыю па выніках году. Ён сеў побач, дастаў нататнік, але глядзеў не на дакладчыкаў, а ўвесь час на мяне. А пасьля запрасіў на каву, і мы не расставаліся колькі месяцаў. Ён зрабіў прапанову. Я была такая шчасьлівая! Ажно ўявіла, што ня вытрымаю такога шчасьця – дурная. Патэлефанавала і сказала, што мы больш не пабачымся. Так яно й сталася. Ён зьмяніў жытло й працу. Я пільную ўсе газэты: калі й піша цяпер, дык пад псэўданімам.

Зацягнулася цыгарэтай:

– Я абараніла дыплём. Пажыла колькі

часу ў Горадзе, а пасьля ня вытрымала й вярнулася ў свае Засьценкі. Гэта ж невыносны стан: жыць з чалавекам у адным Горадзе, ведаць, што ён дзесьці побач і што можаш сустрэцца зь ім на вуліцы. І што пры сустрэчы ён адно ўсьміхнецца, моўчкі памахае рукой ды пойдзе далей. Вось і зьехала.

Адэлька сумна ўсьміхнулася:

– А іншых мне ня трэба.

Галінка слухала агаломшаная.

Дапілі састылую каву.

А. ляжаў – не варушыўся. Адэлька ўзьнялася:

– Пайду я. Хутка цягнік. Трэба яшчэ набыць падарункі сваім, у Засьценкі.

А. слухаў, як разьвітваліся кабеты, літаральна ўціснуўшыся ў пасьцелены на падлозе стары палітон.

***

У Рэдакцыі панавала звычайная перад здачай нумару мітусьня. Рэдакцыйны народ імкнуўся хутчэй завершыць справы, каб пасьпець падрыхтавацца да Калядаў. А. ціхенька пракраўся міма кабінэту Галоўнага і шмыргануў да стала свайго колішняга прыяцеля Фэлікса, які сядзеў, уталоплены ў кампутар.

– Дзядзьку, выручы мяне, – адчайна й адначасова рашуча выгукнуў А. замест вітаньня.

– Грошай ня дам, – ня менш адчайна й рашуча адказаў Фэлікс. – Сёньня зранку твой сябрук Помнік прыходзіў, ледзь адкупіліся. Магу пляшку шампанскага "пазычыць".

– Я не пра грошы, – А. не міргаючы глядзеў на Фэлікса. – Дастань дыктафон. Улучы яго.

Фэлікс неахвотна выканаў просьбу.

– Слухай, – пачаў А., – гэта было гады чатыры таму, акурат перад Калядамі…

Распавядаў спакойна, крыху манатонна. На заканчэньне разьвёў рукамі:

– Як толькі яна сыйшла, падняўся з палітону, ціхенька, каб не пачула гаспадыня, уцёк з майстэрні. І вось я тут.

– І што я мушу рабіць з запісам? – недаўменна запытаўся Фэлікс.

– Гэта ж шыкоўная гісторыя! Гатовы тэкст, які толькі трэба зьняць з дыктафону. Сёньня апошні дзень, калі я магу здаць матар'ял у нумар. Ты ж ведаеш, Галоўны мяне звольніў. А гэта абсалютна шэдэўральная гісторыя. Гэта мой шанец. Ад цябе я прашу канцоўку. Калі ласка, прыдумай што-небудзь круцейшае за хэпі-энд. – А. скарыстаўся з разгубленнасьці Фэлікса і пачаў красьціся да дзьвярэй. – Я пагуляю пару гадзінак, а ты падумай на фіналам, добра?.. Ты ж сапраўдны пісьменьнік.

***

Калі А. вярнуўся, перад Фэліксам на стале ляжалі некалькі сьвежараздрукаваных на прынтары аркушыкаў. На першым стаяла імя А.

– Напісаў?

– Амаль, – змрочна адказаў Фэлікс. – Я зьняў твой расповед са стужкі слова ў слова. Але дзеля канцоўкі не хапае аднаго апошняга сказу. Я зрабіў колькі даведак, і…

Фэлікс працягнуў А. запісаны нумар тэлефону:

– Звані!

– Куды?

– Звані й кажы, што кахаеш яе. І не забудзься купіць кветкі, як паедзеш. Цягнік праз гадзіну.

А. паглядзеў на паперку з нумарам і ўзяў слухаўку.

– Для Галоўнага я напішу за цябе іншае апавяданьне, а гэта, – Фэлікс уклаў у руку А. аркушыкі, – ты прывязеш для Яе. На Каляды.

І дадаў:

– Шампанскае ў шафе.

# Сяброўка Прэзыдэнта

Выпадкова Кантралёрка заўважыла, што ўсё зьмянілася ў ейным жыцьці. Гэта было непрыемнае адчуваньне, бо сапраўднае жыцьцё пачалося ня так даўно, каля дзесяці гадоў таму, калі ў горадзе праклалі першую лінію мэтро. Тады кабета зразумела, што мусіць прысьвяціць усю сябе для служэньня людзям, і зрабілася Кантралёркай.

Як хораша было ў тыя гады! Цэлымі днямі не сьціхаў звон манэтак – любых зь дзяцінства пятачкоў. Бясконцы струмень маленькіх грошыкаў нібы малпаваў людзкую плынь у фае мэтрапалітэна. Прапускаючы праз свой пільны позірк людзей, што ішлі да падземных харомаў, Кантралёрка быццам прапускала празь сябе іхнюю радасьць. Радасьць ад спрычыненьня да грандыёзнай казкі.

Натуральна, усякае бывала ў гэтым вялікім, бясконцым жыцьці. Часам радасьць плямілася горыччу: сьлязьмі, крыкам і нават кроўю. Але гэта толькі ўзмацняла адчуваньне сапраўднасьці жыцьця. І вось

сёньня Кантралёрка ўцяміла, чаму апошнія некалькі гадоў яна пачала адчуваць няўтульнасьць у сваёй душы.

Не, рэч нават ня ў тым, што звон манэтак зьнік. Гэта яна адзначыла даўно. Але зараз яе абмінуў, прайшоў адзін, другі, трэці… пятнаццаты пасажыр, ня кінуўшы жэтон у турнікет. Кантралёрка злавіла сябе на тым, што ня сочыць, ці паказваюць ёй дакумэнты ўсе тыя ільготнікі і ці сапраўдныя іхнія дакумэнты. Бо Кантралёрка адчула, што перастала быць патрэбнай гэтым людзям. Ім, якім яна аддала лепшыя гады свайго жыцьця!

* * *

– Стой, прад’яві студэнцкі!

– Цётачка, няма…

– Тады купляй жэтон.

– Няма грошай.

– Тады йдзі пешшу.

– Што з вамі, цётачка? Хіба сёньня акцыя?

– Не затрымлівай.

– Ці, можа, вас асабіста Прэзыдэнт папрасіў? – зыранізаваў стомлены студэнт.

– Так, Прэзыдэнт папрасіў мяне АСАБІСТА!

Студэнт ужо даўно зьнік за шклянымі дзьвярыма ўваходу, а Кантралёрка ўсё ўслухоўвалася ва ўласныя словы, якія рэ-

хам пульсавалі ў ейнай сьвядомасьці – «папрасіў, папрасіў... асабіста, асабіста...» Яна ўзгадала штосьці падобнае. Хутчэй гэта была ня згадка, а толькі яе бляклы цень. Так, так, аднойчы, ці нават некалькі разоў, Прэзыдэнт зьвяртаўся да яе праз тэлевізар. Ён штосьці казаў... Не, ён нават прасіў. Прасіў і прасіў, а яна, дурніца, ня слухала, бо ў стоме пасьля працоўнага дня прысынала проста перад экранам.

Ёй заўжды было хораша чуць гэты надзвычайны голас. Яна забывалася на нявыкінутае сьмецьце, на зламаны ўнітаз, на нявыбітыя дываны і на цела мужа, якое ляжала ў вітальні ў клубох сьпірытусовае пары. Голас абуджаў у ёй даўно забытыя жаданьні, выклікаў салодкую млосьць, яна засынала ў мроях...

Станцыя, дзе працавала Кантралёрка, месьцілася побач з Унівэрсытэтам. А студэнты – гэткае племя, якое не абыходзіць сваёй увагай касту вахтараў, ліфтараў, дыспэчараў і, пагатоў, кантралёраў. Кожны, хто быў студэнтам, можа прыгадаць мянушкі, больш падобныя да званьняў, якімі ўганароўвалі ўлюбёных «пэрсанажаў» гэтай адмысловай касты, кшталту «Гітлераўна», «Аднаногі Сільвэр», «Грамазека» ці проста «Гарыныч». Таму ня дзіва, што праз пэўны час сярод студэнтаў, і ня

толькі сярод іх, распаўсюдзілася зьвестка, што на станцыі працуе Сяброўка Прэзыдэнта.

Калі ў першы раз пачула ад незнаёмай старой жанчыны просьбу да Прэзыдэнта, Кантралёрка абсалютна не зьдзівілася, «Добра, – адказала яна, – я абавязкова перадам. Ня ведаю дакладны тэрмін, але неўзабаве ў нас будзе прэзыдэнцкая праверка, і мы аб усім перамовімся. Толькі трэба пісаць просьбы на паперцы, каб я не забылася». Гэтак Кантралёрка завяла невялікую скрынку, здаецца, з-пад ківі, куды стала зьбіраць просьбы людзей.

Цяпер праца стамляла нават больш, чым пасьля адкрыцьця мэтро, калі плынь людзей была шчыльная, як ледавік. Якая гэта была стома! Людзей пабольшала, але амаль усе яны ўсьміхаліся, віталіся, прамаўлялі цёплыя словы і, натуральна ж, паказвалі дакумэнты. Яна ўглядалася ў твары людзей і штохвіліны чакала ЯГО (чаму яна яго чакала, з апавяданьня не высноўваецца). «Праверка – сустрэча – салодкая млосьць. Плынь людзей – пошук – жаданьне». Тым часам стос паперак-прашэньняў рос гэтаксама, як колькасьць экскурсіяў на станцыю, якія ладзілі прадпрымальныя студэнты. Здавалася, увесь горад жыў чаканьнем СУСТРЭЧЫ.

Так здарылася, што кабета зьмяніла месца жыхарства. Перад тым Кантралёрка жыла непасрэдна побач са станцыяй, на якой працавала. Яна ня памятала, калі апошні раз карысталася грамадзкім транспартам. Пэўна, гэта было перад пабудовай мэтро. Вакзал, рынак, ГУМ, ЦУМ, дзіцячы парк і нават шпіталь, карацей, усё, што патрэбна для нармальнага жыцьця, месьцілася ўздоўж запаветнай лініі. А за ўваход на працу супрацоўнікі, вядома, ня плацяць. Але цяпер кабета мусіла клапацацца пра аплату ўласнага праезду. Калі Кантралёрку штрафавалі першы раз, яна ледзь ня страціла прытомнасьць. З таго часу штосьці зьмянілася ў ейных вачох. Не, яна не перастала радавацца жыцьцю. Ёй па-ранейшаму ўсьміхаліся пасажыры, яна па-ранейшаму складала паперкі ў скрынку, і ўсе разам працягвалі чакаць СУСТРЭЧУ. Проста яна адчула, што губляе моц на сваім штодзённым пасту. Але ж у цяперашні час моц сталася патрэбнаю, як ніколі. ЁН, ейны Сябра, сказаў нядаўна, што безьліч нябачных ворагаў улілася ў шэрагі пасажыраў, каб падбухторваць іх не плаціць за праезд і не паказваць Кантралёрцы дакумэнты. Жанчына пачала больш пільна ўзірацца ў твары мінакоў, што імкнуліся зашыцца пад зямлю. Жанчына падрыхтавалася да ЗМАГАНЬНЯ.

Калі ня маеш звычкі купляць квіткі – лепш набыць праязны. Але Кантралёрка ня мела звычкі набываць праязны. Таму ня дзіўна, што адным сьцюдзёным восеньскім днём, калі пачалася Праверка, Кантралёрка ехала ў тралейбусе безь білету. Дакладней, квіточак на праезд ляжаў у ейнай валізцы, але яна забылася скарыстацца кампостарам.

Жанчына сядзела на адзінарным сядзеньні адразу за сярэднімі дзьвярыма, бліжэй да задняй пляцоўкі. Яна думала пра тое, як прыйдзе на працу, пераапранецца і заступіць на сваю пачэсную вахту. А яшчэ жанчына ўзгадвала дзяцінства, і ў гэтых згадках чамусьці прысутнічаў ЁН, ягоныя вялікія рукі, мужныя вочы й прарэзлівы, прыцягальны голас, які выклікае салодкую млосьць ва ўсім целе…

Тралейбус рэзка затармазіў і спыніўся пасярод праспэкту. Чыясьці рука проста на хаду адчапіла «рожкі» ад дроту. Людзі пасыпаліся ўперад салёну. Хтосьці застагнаў, пачуўся дзіцячы енк… Кіроўца, перапэцканы крывёю з расьсечанага брыва, схапіўся за манціроўку, каб пакараць невядомага ліхача. Ён расчыніў дзьверы і адразу абмяк, нібы садзьмуты балёнік. У салён тралейбуса ўвайшоў ЁН.

– Прэзыдэнцкая праверка! Усе застаюцца на месцах. Прад'явіць білецікі!

– Ваш білецік? Добра. Ваш? Вельмі добра. А ў вас, жанчына?

– Зараз, зараз, – рукі Кантралёркі дрыжэлі, гэтак як вусны, як сэрца, – вы ведаеце, я Кантралёрка, памятаеце, вы мяне прасілі?.. Я ўсё зрабіла. Там, на станцыі... Я ўсё падрыхтавала...

– У цябе што, няма білеціка?! А можа, ты ня чула мой учорашні ўказ?!!

– Зараз, зараз, любы мой сябра...

– Гэтую вывесьці, – загад быў кінуты іншым членам праверкі. – Далей, ваш білецік?..

Кантралёрку ахайна ўзялі пад локці, вывелі на тратуар, бліжэй да сьцяны Галоўнай Гарадзкой Крамы, і расстралялі.

# Сьветка

Учора я налякаў Сьветку — параіў ёй не выходзіць замуж за таго адстаўніка. Сьветка вельмі спужалася маіх словаў, хоць я й сказаў толькі, што яна дажыве да пэнсіі, і ня тое што мілосных уцехаў, нават плескача па азадку не атрымае. Ну сапраўды, куды ёй чацьвертым разам вэлюм пачапляць?!

Гледзячы, як Сьветка нацягвае на свае абрузглыя сьцёгны вузенькія джынсы, я сказаў, што лепей паглядзець у газэце аб'яву, у якой «малады хлапец шукае забясьпечаную даму...» Дзіўна, яна не рассьмяялася і не раззлавалася, а менавіта спужалася.

Я рэдка зь ёй размаўляю. Ды й яна ня вельмі ўважлівая. Можа, гэта ўзрост? Сьветцы неўзабаве стукне пяцьдзясят...

Ды халера са Сьветкай — мне сумна. Апошнім часам я адчуў, што вонкавы сьвет мяне ня ўражвае. Часам ён зьдзіўляе і нават узрушвае, але ўсё, што можа сапраўды ўразіць, я знаходжу адно ў сабе. Праўда, гэта здараецца ўсё радзей і радзей. Асабліва

цяжка даводзіцца ўначы, калі вострае адчуваньне рэальнасьці. Наплываюць успаміны пра нейкія нерэалізаваныя жаданьні, і немаведама адкуль узьнікаюць узгадкі пра даўно неістотныя перажываньні. Што можа быць больш недарэчным, чым успамін пра нязьдзейсьненыя жаданьні, калі штодня пладзяцца новыя?

Калі я гляджу на Сьветку, мне падаецца, што ў ейным жыцьці жаданьняў было ня больш за які тузін і што прынамсі палову зь іх яна нават не рэалізавала. Я выказаў свае думкі Сьветцы, а яна так тарганулася, што пашкодзіла замок у сваіх навенькіх Levi's. Што да мяне, я на сёньняшні дзень маю, бадай, толькі адно трывалае жаданьне – спаць бяз сноў.

Раней я клаўся ў ложак, нібы сядаў перад экранам тэлевізара, маўляў, што навенькага сёньня пабачым? Але цяпер мне гэта не цікава. Пагатоў цяпер у прынцыпе цяжка заснуць – ляжу гадзінамі і лічу начныя цягнікі, што час ад часу грукочуць за вакном. Чуў, што ў такіх выпадках добра дапамагае гарэлка. Але, калі меркаваць па твары Сьветкінага адстаўніка, гэта ня самы ўдалы сродак.

Зь іншага боку, цяпер я разьлюбіў прачынацца. Нашто прачынацца, калі ўсё, што будзе, вядомае наперад? Прынамсі, у агляднай будучыні. А ў неагляднай неспадзя-

ваны – толькі час здарэньняў. Праўда, розныя людзі, асабліва маці, спрабуюць абмаляваць мне нейкія сьветлыя далячыні. Але я гляджу на іх і думаю, а дзе ж, даражэнькія, падзеліся вашыя сьветлыя далячыні? Зайздрошчу я людзям, якія не перастаюць мроіць аж да божай пасцелі. Тая ж Сьветка – глядзіць на свае абвіслыя да пупа грудзі і таксама аб чымсьці мроіць.

Па шчырасьці, бывае, што я сам сябе таксама прымушаю мроіць, бо гэта дазваляе хутка заснуць...

Мяне лічаць вельмі камунікабэльным чалавекам. Згодны – я люблю быць сярод людзей. Гэта адзін са сродкаў, каб пазбыцца штосэкундавага адчуваньня сябе як рэчаіснасьці. Чалавечае жыцьцё – моманты ісьціны. Але ўсё жыцьцё ня можа быць бясконцым момантам ісьціны, бо інакш гэта будзе вельмі кароткае жыцьцё. Асабіста я нічога ня маю супраць такога варыянту, але, на жаль, інстынкт самазахаваньня ў мяне разьвіты ня менш, чым у іншых. Таму я дазваляю сабе ўсё тое, што навакольныя людзі: капрызы, гістэрыку, сьмех, плач, экзальтаванасьць, пыхлівасьць, пяшчоту, чульлівасьць і г.д.

Карацей, забаўляюся. А што яшчэ рабіць?.. Сказаць шчыра? Я ведаю. Бо ведаю самае цікавае, што ёсьць у гэтым жыцьці. Тое, што надае яму сэнс і асалоду, тое, што

захапляе мяне і пазбаўляе самоты – гэта сьмерць.

Цяпер мы рушым разам са Сьветкай. Яна трымае мяне сваёй кастлявай і цёплай рукою за ўказальны палец. Сьветка борздка перасоўвае даўгія, нібы цыркуль, ногі, і ейны віслы азадак трасецца ля майго твару ў тахт няроўнай хадзе. Я бягу побач, але ўсё адно крыху адстаю. Вялікі букет пышных кветак, якія сьмярдзяць невыносным задушлівым пахам, валачэцца за мною па пыльнай дарозе.

Мы спазьняемся на нейкае сьвята. Сёньня першага верасьня. Здаецца, гэта дзень пачатку Другой сусьветнай вайны?.. Не, маці казала штосьці іншае наконт сёньняшняга сьвята. Па-мойму, зараз мяне вядуць «першы раз у першую клясу». Абяцалі, што будзе цікава. Паглядзім. У любым выпадку, сёньня я сумаваць ня буду. Калі мы са Сьветкай вернемся са школы, я, як заўжды, буду да вечара альбо чытаць кніжкі, альбо залезу ў інтэрнэт праз бацькавы кампутар. Потым будзе вячэра, а пасьля вячэры мае бацькі пойдуць у тэатар. Вось тут пачнуцца адносна цікавыя рэчы. Чамусьці Сьветка лазіць мыцца заўжды, калі сыходзяць гаспадары – мае бацькі. Яна кладзецца ў гарачую ванну, а праз колькі хвілінаў просіць, каб я памыў ёй сьпінку. Звычайна я мыю ёй нашмат больш, чым сьпінку... А

мінулы раз Сьветка папрасіла, каб я памыўся разам зь ёю. Было казытліва і сьмешна. Нават крыху цікава…

Дык вось, сёньня Сьветка йзноў пакліча мяне мыцца разам. І калі яна нагне сьпіну, упёршыся рукамі ў край ванны, я ўдару… Не, ня так. Калі будзем піць гарбату, я незаўважна падсыплю ёй снатворнае. У вадзе Сьветка засьне, і мне застанецца крыху націснуць ёй на галаву, каб паглядзець, як разам з бурбалкамі зь яе выходзіць жыцьцё.

Гэтыя думкі робяць мяне вясёлым і бестурботным, амаль шчасьлівым. Але самае непрыемнае ў шчасьці – усьведамленьне таго, што яно ня можа быць доўгім. Гэтая думка, як паразіт, смокча зь цябе радасьць і прымушае яшчэ мацней угрызацца ў сваё шчасьце. Таму, бегучы цяпер за Сьветкай, я думаю аб тым, што ня буду забіваць яе сёньня, бо саме галоўнае ў шчасьці – ягонае прадчуваньне. Хай Сьветкін азадак яшчэ больш абвісае, хай яна выходзіць за свайго адстаўніка і хай той мые ёй сьпінку хоць кожны дзень. Што мне са Сьветкінай сьмерці? Усё, што можа мяне зьдзівіць, можа быць толькі ўва мне.

# Беларускі сюжэт

Я знайшоў гэтую кнігу ў адной зь менскіх бібліятэкаў — збор твораў Місімы. Мі-Сі-Ма — Зачараваны Сьмерцю Д'ябал.

Ці ня кожная гісторыя пра гэтага японскага пісьменьніка пачынаецца з дня ягонае сьмерці. Увосені 1970 году на адной з базаў японскіх Сілаў Самаабароны Місіма інсцэнаваў спробу вайсковага мецяжу, а пасьля зрабіў сабе харакіры. Менавіта на дваццаць пятыя ўгодкі гэтай падзеі я даведаўся пра Місіму. Ноч, сьмерць, кроў — вось тры кіты, на якіх будавалася Місімава мадэль Прыгажосьці.

Я зайшоў у менскую бібліятэку, каб прачытаць ягоны "Залаты Храм" — сусьветнавядомы раман пра хлопца-манаха, які спаліў сымбаль старажытнай японскай сталіцы Кіёта. Але калі я адгарнуў кнігу, дык убачыў, што супэрвокладка знутры пакрытая нейкім тэкстам, накрэсьленым алоўкам.

Вось ён:

"Заўчора я атрымаў запрашэньне прыйсці на адкрыцьцё новага Менскага клюбу.

Дзіўна, але ніхто ў горадзе нічога ня ведаў пра яго: будынак у цэнтры горада паўстаў літаральна за колькі тыдняў. Яшчэ больш я зьдзівіўся, калі прыйшоў туды да прызначанае гадзіны.

Усе прысутныя былі мне добра знаёмыя. У запрашальніку да кожнага зьвярталіся адмыслова: дзесьці фігуравала школьная мянушка, дзесьці зварот, прыняты адно ў цесным коле сяброў…

Нас, прысутных, уразіў інтэр’ер залі. Чагосьці больш адначасна раскошнага і густоўнага было цяжка прыдумаць. Аднак інтэр’ер быў ня самы галоўны. Мы неяк адразу сьцямілі, што нас злучае нейкая вядомая ўсім прысутным асоба. Раптам хтосьці выказаў думку, якая, бадай, віравала ў галаве кожнага: «Здаецца, нас запрасіў сюды А.»

У гэты момант сьвятло ў залі згасла, сцэна наадварот высьветлілася, зьнекуль загучаў раяль, і перад намі сапраўды паўстаў А.:

— Сябры, вы ня можаце ўявіць, як я рады бачыць вас тут усіх разам! Гэта самы шчасьлівы дзень у маім жыцьці! Дзесяць гадоў мяне не было на Бацькаўшчыне. Натуральна, ці ня ўсе лічылі, што я загінуў… Сябры, тое, што вы бачыце наўкола, — частка матар’яльнага плёну майго жыцьця ў замежжы. Цяпер вы, пэўна, здагадва-

ецеся, ад каго сыходзіла падтрымка вашых творчых праектаў. Насуперак неспрыяльным умовам, нягледзячы на эканамічную і палітычную сытуацыю ў краіне, нягледзячы на арышты, пагромы, вы дзейнічалі – НАША справа жыла. Я магу лічыць сваё жыцьцё, свой лёс удалым. Але маё жыцьцёвае прызначэньне, мне падаецца, не да канца спраўджанае. У Беларушчыны ёсьць сродкі, ёсьць людзі, ёсьць ідэі. Адзінае, чаго бракуе — НАШАГА сюжэту. Зараз я зраблю ўчынак, які выправіць гэтую сытуацыю: ён увойдзе ў аналы беларускай гісторыі, літаратуры, журналістыкі… І паспрыяеце гэтаму вы. Вам ня трэба будзе ствараць міт — гэта будзе ці ня самае аб'ектыўнае, што ёсьць у НАШАЙ справе. Уласна кажучы, сюжэт разьвіваецца зараз, у гэты самы момант, на вашых вачох. Застаецца паставіць фінальную кропку.

На гэтых словах А. зьняў з драпіроўкі ў глыбіні сцэны корд — кароткі меч, папулярны ў сярэднявечным беларускім войску, — і распароў сабе жывот.

Варта заўважыць, што на працягу ўсяго маналёгу, мы, узрадаваныя сустрэчаю са старым сябрам і нязвыклай сытуацыяй, не вымавілі ані слова…"

На гэтым рукапіс абарваўся, і можна было б скончыць аповед пра дзіўную знаходку, калі б не адна акалічнасьць. Нядаўна

адна знаёмая дзяўчына, якая колькі месяцаў таму пачала працаваць бібліятэкаркай, распавяла мне пра нейкага дзівака, які ці не штодня прыходзіць да яе на працу і шукае зборнік твораў “нейкага Місімы”. Але кніжка ўвесь час на руках, і дзівак ніяк ня можа засьпець яе ў бібліятэцы.

У дзень меркаванага прыходу таго чалавека, я выправіўся ў бібліятэку, каб пазнаёміцца зь ім. Сапраўды, сустрэў яго ля стойкі прыёму-здачы кнігі. Ён дараспавёў мне гісторыю, напісаную на ўнутраным баку супэрвокладкі да зборніка Місімы:

“Пасьля прылюднай сьмерці А. мы даведаліся, што, апрача ўсяго іншага, у свой тэстамэнт ён дадаў пункт аб заснаваным ім клюбе. Цяпер мы ўсе зьяўляліся ягонымі пажыцьцёвымі сябрамі. У гадавіну сьмерці А. мы ўсе разам зьбіраемся ля ягонай магілы, а пасьля рушым у клюб, які, натуральна, называецца «А». Мы ўзгадваем А., дзякуем яму за падтрымку, за любоў і за тое, што ён яшчэ шчыльней зьяднаў нас… На гэтым тыдні клюб зьбярэцца ізноў. Але я туды не пайду. Мяне там не зразумелі, калі на мінулай сустрэчы я сказаў, што Беларусі не патрэбныя нашыя харакіры — Бацькаўшчыне бракуе камікадзэ”.

Я перадаў гэтаму чалавеку прыхаваную ў сябе супэрвокладку і пазычыў усяго найлепшага.

Ці варта казаць, што чалавека звалі А.

# Страчаная старонка

Схільнасьць людзей верыць у магію лічбаў высьмейваецца, бадай, з таго часу, як сьвет зрабіўся “прагрэсыўным”. Нягледзячы на гэта, і “перадавыя”, і “адсталыя” часткі чалавецтва з аднолькавым энтузіязмам адзначаюць рознага кшталту юбілеі (чаго вартае трымценьне перад надыходам 2000 году!) і ў думках складаюць дулю ў кішэні пры напатканьні лічбы «13». Мы любім тройцу і ненавідзім шасьцёркі. А яшчэ мы вядзем Каляндар, складаем лічбы ў пошуках Знаку.

Разьвіцьцё беларускай гісторыі асьвечанае некалькімі супрацьлеглымі ў сваёй ісьце Знакамі. Адзін зь іх — Знак страты. Крыж Еўфрасіньні, Карона Вітаўта, першапачатковая “Чарадзеевая” Сафія… — сымбалі Сьвятасьці, Дзяржавы, Культуры. Але, на маю думку, самай балючай з нашых stratаў ёсьць зьнішчэньне беларускага Радаводу — “Полацкага летапісу”.

Як ён зьнік? Згарэў падчас штурму Полацку вайскоўцамі цара Івана Жахлівага ці пазьней, у печцы крамлёўскіх “засекаў”?

Навошта? Няўжо маскоўцы, зьнішчаючы няправільны летапіс, палічылі гэты дакумэнт "неугодным"? Але ці ўвогуле магчыма схавацца ад Гісторыі, паколькі рукапісы не гараць у найважнейшых месцах тэксту?

У 1692 годзе Сьвятая інквізыцыя зьнішчыла наклад кнігі Lexicon Cosri ("Хазарскі слоўнік"), які быў выдадзены Янам Даўбманусам (Ioanne Daubmannus).

Лёс адпусьціў слоўніку менш чым год існаваньня. Гэта лацінамоўнае дасьледаваньне хазараў, народа, што ў IX-XIV стст. жыў паміж Чорным і Касьпійскім марамі.

Цікавасьць эўрапейскіх навукоўцаў да гэтага амаль мітычнага народу цалкам зразумелая. Сярэднявечныя мысьляры імкнуліся патлумачыць зьяву, калі адзін народ з паганства сьведама, адным засабам перайшоў у тры супрацьлеглыя веры — хрысьціянства, іслам і юдаізм (яны вагаліся, якую з трох рэлігій выбраць, і пасля палемікі абралі юдаізм). Гэтай "акцыі" папярэднічаў вялікі дыспут, які атрымаў назоў "хазарскай палемікі". Падчас яго выдатныя дзеячы трох сусьветных рэлігіяў па чарзе даводзілі хазарскаму цару слушнасьць сваіх перакананьняў.

Што не спадабалася Сьвятой інквізыцыі ў Даўбманусавым Lexicon Cosri, цяпер цяжка ўстанавіць з пэўнасьцю. Але дакладна вядома, што, празь мізэрнасьць зьвес-

так пра хазараў, аўтары кнігі прыводзілі факты, якія нават аддалена-ўскосна спрычыняліся да гісторыі “хазарскага пытаньня”. У тым ліку яны цытавалі невядомыя цяпер старарускія крыніцы…

* * *

Гэтая гісторыя стала вядомай праз няўважлівасьць сучаснага дасьледніка “хазарскага пытаньня” сэрба Міларада Павіча.

На пачатку 80-ых, тады яшчэ невядомы ў сьвеце філёляг зь Бялграду, Мілярад Павіч рабіў пакупкі ў невялічкай букіністычнай крамцы, што на набярэжнай Монта-Бэлё (адразу перад правым бокам Нотр-Дам дэ Пары). Набыўшы патрэбнае, Павіч сышоў, пакінуўшы ў крамцы свой дзёньнік-нататнік. Крамар выставіў нататнік навідавоку, каб купец мог вярнуцца й забраць сваю рэч. Але той усё ня йшоў ды ня йшоў, і неўзабаве крамар увапхнуў прыгожы нататнік нейкаму амэрыканскаму турысту, зачмурыўшы галаву прыхадню гісторыяй пра тое, што нататнік належыць адной сусьветнай славутасьці. Пэўна, калі ўжо пазьней крамар убачыў у газэтах здымак сапраўднага гаспадара нататніка, ён схапіўся за галаву… Але мы не пра тое.

У Нью-Ёрку Боб Хвастоўскі – гэтак звалі турыста, які набыў дзёньнік, – паказаў парыскую штучку сваёй жонцы Шэран Ізэт-

бэгавіч, з паходжаньня басьнійцы. Дзякуючы ейнай любові да мовы бацькоў, адна з гісторыяў нататніка вярнулася назад у Стары Сьвет. Тая гісторыя вярнулася таксама дзякуючы Лене зь Менску, якая больш за год працавала ў Боба й Шэран бэйбісытаркай. Зь ліста ад Шэран Лена даведалася, што сёлета сям'я Хвастоўскі намерваецца паехаць у Эўропу адмыслова, каб парадаваць славутага "лаўца сноў постмадэрнізму" Міларада Павіча нечаканым сюрпрызам – зваротам даўно згубленае рэчы.

Наўрад ці пры сустрэчы ён растлумачыў ім, чаму марудзіць з публікацыяй сваіх даўніх зацемак. Тым ня менш…

"Халодным кастрычніцкім днём 1980 году шыбы ў маёй кватэры ледзь ня вылецелі ад званка ў дзьверы…" Павіч чакаў візыту. Чалавек, які зьявіўся ў дзьвярах, меў дужа-дужа неахайны выгляд: хай сабе дарагі модны гарнітур, але ён быў падраны й скамечаны, пабітыя залатыя акуляры на носе…

Гэта быў адзін з аўтарытэтаў бялградзкага чорнага рынку антыкварыяту Гойка Сук. Калісьці яны вучыліся разам ва ўнівэрсытэце. Пасьля таго, як Гойка быў адлічаны з чацьвертага курсу, два мужчыны бачыліся вельмі рэдка, на зборнях бялградкіх калекцыянэраў. За два дні да свайго прыходу Сук затэлефанаваў Павічу і паведаміў, што чуў пра ягоную працу над "хазарскай пра-

блематыкай” і што з гэтае нагоды ён, Сук, мае што прапанаваць. Менавіта — старонку старажытнага лацінскага тэксту.

Рэч у тым, што ў сьвеце ад выдадзенага ў 1691 годзе Lexicon Cosri засталося адно некалькі старонак. І вось цяпер: “Гаспадзіне Павічу, у мяне ёсьць пяць хвілінаў... Вось рэч, пра якую я вам казаў. Для вас яна будзе каштаваць адно сямсот даляраў”. Празь пяць хвілінаў візытор зьнік з грашыма.

З нататак Павіча вынікае, што ён працаваў з купленай старонкай роўна дванаццаць гадзінаў. Наступнага дня а восьмай раніцы да яго прыйшлі людзі з крымінальнага вышуку, паказалі ордэр наператрус і канфіскавалі старажытную рэч. Высьветлілася, што яны шукаюць Гойку Сука і рэчы, якія ён скраў зь невялічкага манастыру ў Вуйкаве, што ва ўсходняй Босьніі... Доўгі час старажытная старонка ляжала ў сэйфах крымінальнага вышуку, а па каторым часе яе вярнулі ў манастыр. За далейшы лёс рарытэту можна прыцягнуць да адказу безыменнага харвацкага пілёта “СУ-25”, які ў 1992 бамбіў Вуйкава. Натуральна, калі ён яшчэ жывы...

* * *

У 943 годзе рускія дружыны зруйнавалі сталіцу хазараў, што месьцілася ў вусьці Волгі. А з 965 да 970 рускія да-

званьня зьнішчылі ўсю хазарскую дзяржаву. Тым ня менш, падзеленыя ўжо на той час хазары працягвалі фігураваць на гістарычнай арэне ажно да XIV стагодзьдзя. Напрыклад, у Прэсбургу ў 1309 годзе мясцовыя касьцёльныя ўлады забаранялі каталікам шлюб з хазарамі. А ў 1346 гэтую забарону пацьвердзіў Папа Рымскі. Хазары паступова распушчаліся сярод іншых народаў, страчваючы ўласную мову дый іншыя адметнасьці.

Яшчэ сучасьнікі хазараў пачалі спрэчкі наконт прыкметаў "хазарскасьці". І толькі ў адным і старажытныя, і сёньняшнія дасьледнікі сыходзяцца, калі ідэнтыфікуюць хазараў: сапраўднымі носьбітамі "хазарскасьці" былі Лаўцы сноў.

Сьвет — гэта сон, які сьніцца Богу, і нам трэба толькі маліцца, каб Ён не прачнуўся. А калі прачнецца? Мы — частка сну ці мы праніклі ў гэты сон?.. Лаўцы сноў ставіліся да рэальнасьці, як рыбы ставяцца да прасторы па-за вадою. Лаўцы пранікалі ў чужыя сны і жылі ў іх, з кожным разам павялічваючы майстэрства і з кожным крокам набліжаючыся да Бога. Гэта была адзіная хазарская рэлігія і адзіная чыннасьць, якая вызначала хазараў. Цяпер дакладна вядома, дзе, калі й пры якіх абставінах быў забіты апошні Лавец сноў. Гэта здарылася ў 1380 годзе падчас Кулікоўскай бітвы.

Яго звалі Гэта. Гэтае імя люстэркава адбівала імя першай хазарскай прынцэсы, ці то жонкі, ці то дачкі Вялікага Кагана, якая была заснавальніцай і заступніцай сэкты Лаўцоў сноў. Гэта ведаў ад нараджэньня, што ён — Апошні Лавец. У сьне Гэта ўбачыў свой скон. Штогод гэты сон паўтараўся і брыняў дэталямі. У 1362 годзе, калі Гэта ў складзе ардынскага войска наблізіўся да Сініх Водаў, ён убачыў свой сон наяве. Але сон ня спраўдзіўся да канца...

Страла рускага ваяра параніла Гэтавага каня акурат паміж шчыткоў на грудзях, конь панёс менавіта ў бок варожага стану, твар рускага, які занёс над Гэтам свой меч, быў знаёмы да кожнай зморшчынкі... Гэта нават ведаў імя майстра, які каваў меч. Гэта сачыў за дугою мяча доўга-доўга. Так доўга, што пасьпеў прыгадаць усё сваё жыцьцё, усе сны, у якіх ён пабываў. І калі вастрыё мяча наблізілася да вачэй хазара, успаміны й ява ізноў узьядналіся, і... рускі ваяр спыніў сваю руку.

Немагчыма вытлумачыць, чаму ён гэта зрабіў, гэтаксама як немагчыма дакладна рэканструяваць тую сустрэчу хазара й рускага. Але Lexicon Cosri вельмі канкрэтна сьведчыць, чым скончылася сустрэча. У падзяку за ўратаванае жыцьцё, а дакладней, з пашаны да надзвычайнага ўчынку — рускі перадолеў вызначанае лёсам — Гэта

паведаміў рускаму праўду пра нараджэньне: рускі быў княжага паходжаньня.

Другі, апошні раз яны сустрэліся ў 1380 годзе. Гэта, натуральна, быў сярод татарскага войска. За васямнаццаць гадоў, што мінуліся пасьля Сіняводзкае бітвы, зь дзясятніка ён ператварыўся ў тысячніка. Зрэшты, ён гэта ведаў наперад... Гэтаксама, як ведаў, што на дапамогу татарам прыйдзе славянскае войска і што яно ня пойдзе ў бой. А яшчэ ён ведаў, што сярод таго войска будзе рускі ваяр, імя якому — Андрэй, сын Альгерда.

Яны сустрэліся другі раз у самым пекле сечы. Сустрэліся побач, стрэмя да стрэмені, калі разам ішлі ў атаку на маскоўскае войска. Яго было немагчыма не сустрэць — адзінага славяніна на баку татараў. Ваяра, які загадаў сваёй дружыне заставацца на месцы, разам з асноўным войскам, а сам рушыў у бой.

Рускі праз стрэлы, дзіды й мячы імкнуўся толькі да аднаго — дабрацца да князя, які і ўзростам, і абліччам, і нават манерай валоданьня мячом быў такі падобны да яго самога. Гэта ўсьміхаўся, калі бачыў, як паюнацку гарэлі вочы гэтага даволі сталага чалавека, калі ён імкнуўся адпомсьціць нарэшце свайму крыўдніку. Таму, хто насіў ягонае імя. Дзівакі! Яны ня ведаюць, што сапраўднае імя ведае толькі Бог!..

Трапіўшы акурат паміж шчыткоў, страла параніла Андрэевага каня. І конь панёс яго проста да мэты ягонай выправы — да Андрэя Полацкага, князя Пскоўскага, сына Яромы, цесьляра зь Віцебску, і Марыі Яраслаўны, княгіні Віцебскай. У той самы момант, калі яны спляліся, другая маскоўская страла патрапіла ў руку Андрэя Альгердавіча. Тады Андрэй Яроміч занёс свой меч у спадзеве на апошні ўдар, але ўдар прыйшоўся па чыёйсьці іншай галаве. Далей вір бітвы разьнёс іх у розныя бакі.

Гэта, чыя галава ўратавала Андрэя Альгердавіча, памёр не адразу. Перад сьмерцю ён змачыў Андрэеву рану крывёю са сваёй галавы і прамовіў СЛОВА. Гэта сканаў, ведаючы, што й пасьля яго ў сьвеце застаўся Лавец сноў. Той, хто можа зьмяняць рэчаіснасьць.

* * *

Мы адзначаем даты, мы складаем лічбы, мы шукаем Знакі. 1200 гадоў таму нарадзілася прынцэса Атэг, якая й запачаткавала Лаўцоў сноў і стварыла сваймы народу Неўміручасьць. Дзякуючы ёй у XIV стагодзьдзі зьявіўся беларускі Лавец сноў. Сучаснай мовай яго можна назваць “праграсарам”. Тым, хто бачыць будучыню. У адрозьненьне ад хазараў, чужых сноў ён не лавіў, а ствараў і потым зьдзяйсьняў

уласныя. Менавіта таму наш Слоўнік — Lexicon Lithuanian — жывая кніга, якая пішацца намі самімі для саміх сябе. Гэта значыць, што мы жывем ва ўласнай Неўміручасьці.

# Сіняе вакно

Зь першым боем гадзіньніка чалавек паставіў кропку. Ён залез нагамі на стол, за якім перад гэтым пісаў. Калі гадзіньнік прабіў дванаццаты раз, дык расчыніліся дзьверы ў пакой. Але чалавек не пачуў рыпеньня старых іржавых завесаў. У гэты момант для яго ўсё скончылася…

Зімовым надвячоркам, калі запальваецца нежывое шчымліва-белае сьвятло Прадпрыемства, Пляц робіцца падобным да вялікага сьцюдзёнага моргу пад адкрытым небам.

Велічэзныя закратаваныя вокны Прадпрыемства нібыта зваблівающь рэдкіх мінакоў у свой таямнічы сьвет. Туды, дзе безупынна працуюць гіганцкія мэханізмы, падобныя да мясарэзак. Здаецца, адно краты ўсьцерагаюць выпадковага мінака ад іхніх ненажэрных сьпіраляў.

Мінакі імкнуцца хутчэй перасекчы гэты Пляц, каб рушыць далей па Праспэкце, што ня мае ні пачатку, ні канца… Вонкавая цеплыня жоўтых ліхтароў Праспэкту

падманлівая. Але гэтага падману дастаткова, каб пачувацца больш-менш спакойна на Праспэкце, па якім, здаецца, кожнага разу ідзе апошні тралейбус…

Вокны Рэдакцыі, дзе працаваў А., выходзілі акурат на стык жоўтага й белага сьвятла, на сумежжа двух падманаў. Раней А. штовечар прысьвячаў колькі часу, каб з кубачкам кавы ў руцэ парадавацца таму, што ён знаходзіцца ў сапраўдным цяпле, сярод жывых людзей, якія ні ад чаго не ўцякаюць. Аднак цяпер А. перастаў зважаць на Пляц, Праспэкт і Прадпрыемства.

Падчас традыцыйных вячорак за кілішкам-другім кальвадосу А. амаль не размаўляў з супрацоўнікамі. У Рэдакцыі апошнім часам меркавалі, што ў жыцьці А. здарылася штосьці драматычнае, таму не задавалі аніякіх пытаньняў наконт перамены ў ягоных паводзінах. Яны не заўважалі!.. Ужо які вечар запар у доме насупраць, на тым баку Праспэкта, запальвалася Сіняе Вакно.

Ненатуральны, надта рэзкі сіні колер, якім знутры патыхала Вакно, уводзіў А. у стан гіпнозу. Вакно клікала да сябе. Пляц, Праспэкт, Прадпрыемства… Кава, кальвадос, гамонка калегаў… Жонка, Джэймс Джойс на кніжнай палічцы, сочыва, што з прывітаньнямі перадала цешча… Прэфэранс у бліжэйшую пятніцу… Вакно не

пакідала месца для жаданьняў і думак. Яно прагнула А. усяго.

Чаму? Хіба такое дзіва магчыма вытлумачыць? Гэта ўсё роўна як тлумачыць прагу да стварэньня тэкстаў, якая панавала ў А. амаль зь дзяцінства. Усё жыцьцё А. пісаў і пісаў, і наважваўся паказваць тэксты адно блізкім сябрам, дый тое вельмі рэдка. Пэўна, А. нельга было назваць графаманам, бо ён усё ж адчуваў рэакцыю на свае літаратурныя высілкі.

Уласна, кшталт ня быў для яго найважнейшым. А. шалёна любіў тую слодыч, той невытлумачальны стан, які правакаваў жаданьне пісаць. Ён імкнуўся й адначасова баяўся гэтага стану, што ўзьнікаў сьледам за першымі літарамі на паперы: слодыч жаданьня й боль ад уласнай немагчымасьці выказацца, знайсьці патрэбныя словы й канструкцыі, вобразы… асэнсаваць адчуваньні… авалодаць бурленьнем уласнай крыві.

Ніхто не назаве колькасьць бяссонных начэй, якія ў сваю чаргу спарадзілі безьліч аркушаў, сьпісаных няроўным почыркам А. Не ведаў гэтага і сам А.

Калі А. прыйшоў працаваць у Рэдакцыю, ён пастараўся забыцца на сваю апантанасьць. А. менавіта таму й памкнуўся на новую працу – для таго, каб пачаць НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

Зрэшты, А. хітраваў, калі пераконваў сябе ў жаданьні забыцца на тыя балючасалодкія пакуты сэрца й сьвядомасьці. Бо ягонае новае жыцьцё – шматлікія заданьні ад Рэдакцыі – вельмі шчыльна наблізіла яго да працэсаў… як бы гэта сказаць… Калі ўсе вакол пішуць, і пасьля гэта выходзіць у сьвет, і пасьля абмяркоўваецца… За кілішкам-другім кальвадосу… Ва ўтульнай гасьцёўні, дзе няма справы да мярцьвячага зманлівага сьвячэньня Праспэкту, Пляца й Прадпрыемства.

Паступова А. пачаў зьнікаць. Зьнікаць фізычна. Дзень, другі, трэці… Ніхто ва ўсім горадзе ня мог сказаць, дзе ён і што зь ім. А. шукалі, за яго хваляваліся, абзвоньвалі й абпытвалі ўсіх, каго магчыма. Кожны раз людзі напіналі жылы, каб прыгадаць, калі і дзе бачылі яго апошні раз. Высоўваліся самыя фантастычныя меркаваньні. Аднаго разу камусьці нават падалося, што ён бачыў А. у кратаваных вокнах-вачніцах Прадпрыемства…

А. вяртаўся без тлумачэньняў. Проста вяртаўся і прыступаў да сваіх заданьняў.

Ніхто цяпер ня можа сказаць, ці ўсё гэта пачалося да зьяўленьня Сіняга Вакна, ці пасьля… Натуральна, усе прыкмецілі незвычайнае Вакно. Нават крыху пасьмяяліся зь ягонага недарэчнага выгляду, але – ці мала на Праспэкце недарэчнасьцяў, кштал-

ту Пляца або Прадпрыемства? Ды й сам Праспэкт, трэба сказаць…

Менавіта падчас гэткага лёгкага сьцёбу, які запаўняў паўзу ў нейкай спрэчцы, А. вярнуўся чарговы раз. Усе заўважылі – чорныя блiскучыя вочы А. як ніколі выразна адцяняліся бледнай матавасьцю твару. Ён павітаўся ледзь прыкметным кіўком і, прысеўшы ў кутку гасьцёўні, запаліў сваю галяндзкую самакрутку, як звычайна ўвапхнутую ў стары, ледзь трэснуты мундштук. На хвіліну запанавала абсалютная цішыня. Але пакрысе суразмоўцы вярнуліся да дыскусіяў і абгавораў, дзеля якіх яны, уласна, зьбіраліся кожны вечар за кілішкам кальвадосу. Тым больш, той раз дыскусіі былі вясёлыя – сканчаўся калядны тыдзень. Праўда, хтосьці яшчэ раз паспрабаваў быў пакпіць з Вакна, але, перахапіўшы позірк А., зьніякавеў. Зьніякавеў? Магчыма, той чалавек няправільна патлумачыў сабе жаданьне, што прачытаў у жарсным позірку А. Ён памыляўся, калі думаў, што А. жадаў прыдушыць яго ў той момант.

Як бы там ні было, А. дапіў прапанаваную папярэдне каву, дапаліў самакрутку і сышоў бяз словаў. І, здаецца, гэтага ніхто не заўважыў.

Па часе той жартаўнік, той, які кпіў з вакна, стаўся адзіным, хто мог прыгадаць

хоць што выразнае пра апошні візыт А. Менавіта – той жарсны позірк. Ужо потым, пазьней, А. узгадвалі даволі доўга. Пэўна таму, што адчулі, што чагосьці не хапае. Але тады, перад самым Новым годам…

… А. рушыў у начной цемры, не зважаючы на дарогу. Ён нават ня мог сказаць, колькі мінула часу стуль, як ён пакінуў Рэдакцыю. А. ішоў і ўзгадваў сны, што сьніў амаль кожную ноч. Дакладней, адзін сон, які меў безьліч варыяцыяў. А. сьніў Сіняе Вакно. У сьне ён бясконца шукаў дзьверы кватэры, дзе было Сіняе Вакно, і ніяк ня мог патрапіць у патрэбныя. Ён, здаецца, дакладна вылічваў пад'езд і паверх, званіў, націскаў ручку і… апынаўся ў Рэдакцыі.

Зрэшты, А. цяпер ня мог з упэўненасьцю сказаць, ці заўжды гэты сон быў сном…

Слодыч жаданьня й боль немагчымасьці, набліжэньне магчымага й боязь пераступіць мяжу, прадчуваньне зьдзяйсьненьня, адчай захапленьня – бурленьне крыві. А. рушыў у цемры. Наўрад ці знайшоўся бы тут які мінак, што б гойсаў па Пляцы ў апошнія хвіліны перад Новым Годам. Наўрад ці хтосьці бачыў адзінокую постаць, якая перасекла Праспэкт на сумежжы жоўтых і мёртва-белых ліхтароў, двух падманаў. Пагатоў ніхто ня мог ведаць, што А. ня бачыў ні іхняга сьвятла, ні згаслых вокнаў пачварнага Прадпрыемства, ні

Праспэкту, ні Пляца. А. рушыў як ніколі цьвёрда і ўпэўнена. У вачох А. не было месца ні для чаго, акрамя Сіняга Вакна. А. падрыхтаваўся да скачка ў спакой.

...Перад дзьвярыма ён затрымаўся хіба на колькі імгненьняў і рашуча націснуў на клямку. Рыпнулі старыя завесы. А. убачыў велічэзны пакой, пасярод якога, проста пад люстрай, бокам да Вакна стаяў Стол, а перад ім – Крэсла. На супрацьлеглай сьценцы вісеў Гадзіньнік. Гэта быў увесь інтэр'ер пакою.

Зь першым боем Гадзіньніка месца за Сталом вызвалілася. А. прычыніў за сабою дзьверы і сеў у Крэсла. Ён узяў мокрае яшчэ пяро і пачаў пісаць у тоўстым, напалову сьпісаным сшытку. А. не прыкмеціў адбіткаў абутку на той старонцы, тэкст якой сканчаўся словамі «...і тады я паставіў кропку». І не пачуў, як хрумснула люстра ў яго над галавой, калі Гадзіньнік прабіў дванаццаты раз.

А. напісаў: «Зь першым боем Гадзіньніка я ўзяў пяро...»

Больш ніхто ніколі ня ня бачыў Сіняга Вакна.

Літаратурна-мастацкае выданне

Кваткоўскі Севярын

Падарунак для Адэлі
проза

Рэдактар Павал Касьцюкевіч
Карэктар Ліда Наліўка
Дызайн вокладкі Анатоль Лазар
Вёрстка Кацярынка Пікірэня
Фота на вокладцы Павел Эзэрын

Падпісана да друку 05.10.2012 г. Фармат 72x108 1/32
Ум. друк. арк. 4,32 Улік.-выд. арк. 5.
Наклад 300 асоб. Замова 404.

Выдавец І. П. Логвінаў.
ЛИ № 02330/0494468 ад 08.04.2009.
Пр-т Незалежнасці, 19-5, 220030, г. Мінск.
lohvinaupress@gmail.com

Надрукавана на капіравальна-памнажальнай
тэхніцы І. П. Логвінава